PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 18 (1929) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 2 МАЯ 1993 г. ЦАНА 3000 зл.

## "МАЛАНКА" ЗБІРАЕЦЦА Ў ПАРЫЖ

Ансамбль беларускай народнай песні "Маланка" існуе ад 1991 года. На рэпетыцыі збіраецца ў Доме культуры ў Бельску-Падляшскім. Спачатку - было гэта ў студзені 1990 года - дзейнічаў толькі жаночы вакальны квартэт "Маланка". Неўзабаве стаў ён лаўрэатам конкурсу "Беларуская песня '90", які традыцыйна арганізоўвае Беларускае грамадска-культурнае таварыства. З кожным годам калектыў становіцца ўсё больш папулярным не толькі ў сваім асяроддзі. Выступаў ён з канцэртамі ў Белавежы, Бандарах, Старым Ляўкове, Нарве, Орлі, Пашкоўшчыне, Райску, Чыжах ды яшчэ ў Ашмянах і ў Гародні (Рэспубліка Беларусь).

Хор спявае выключна беларускія народныя песні, у тым ліку, між іншым, запісаныя на Беласточчыне - на бельскай гаворцы і на іншых дыялектах. Зараз у семнаццаціасабовым ансамблі ёсць: мешаная вакальная група, жаночая група і пяціасабовы аркестр (музыканты іграюць на акардэонах, скрыпцы, кларнеце, бубнах і іншых ударных інструментах). Мастацкім кіраўніком і дырэктарам "Маланкі" з'яўляецца вопытны музык Сяргей Лукашук.

Дагэтуль ансамбль запісаў на магнітафонную плёнку 23 песні (зараз яны распаўсюджаны на касетах). Мае ў сваім рэпертуары больш трыццаці песень. Увесь калектыў вельмі прыгожа, меладычна і з вялікім майстэрствам спявае песні, між іншым "Чаму ж нам не пець", "Ехалі казакі", "Ой, ляцелі гусі", "Ой, да ішлі хлопцы з ярмаркі", "Цячэ вада ў ярок", "Ехаў Ясь на кані", "Любіў казачэнька", "А я чарнява", "Ой, коцяцца два яблычкі", "Ой, пад мостам", "Ой, я маю чорны бровы", "Клён зялёны", "А ў нядзелечку", "Жыта ў полі" ды "Зялёны гай".



*Спявае дуэт Багуслава Карчэўская і Аліна Ваўранюк.*
**Фота Сяргея Грынявіцкага**

Салістка Лідзія Маліноўская задушэўна выконвае песні: "Белая бярозка", "Пасаджу каліну" і "Доктар". Дуэт Яўгенія Барысюк і Кастусь Селевановіч з пачуццём і запалам выконвае, між іншым, песні "Цераз рэчаньку" і "Шэрая лашадачка" ды дуэт Аліна Ваўранюк і Багуслава Карчэўская - песню "Не йдзіце дзеўкі рана замуж". Тэрцэт Аліна Ваўранюк, Лідзія Маліноўская і Багуслава Карчэўская тэмпераментна спявае песні "Гарэла сосна" і "Сваток" ды квартэт: Л. Маліноўская, А. Ваўранюк, Б. Карчэўская і К. Вапа-Андраюк мілагучна рытмічна выконвае мелодыі "Расцвіла каліна белы цвет" ды "У садзе гуляла".

Да гэтай пары "Маланка" выступіла з 80 канцэртамі. Кожны год удзельнічала ў папулярным конкурсе "Беларуская песня". Заўсёды паспяхова і... здабывае прызы. У верасні 1992 года атрымала яна ў падарунку 22 беларускія народныя касцюмы з Менска (Беларусь).

Спонсарамі бельскага песеннага ансамбля з'яўляюцца: суполкі "Амега" і "Агромэт-Тор" у Бельску-Падляшскім ды "Пронар" у Нарве, Гандлёва-паслуговае прадпрыемства "Крэс", а таксама дзве крамы "Белы крук" і "Папірус" у Бельску-Падляшскім.

Пад канец мая "Маланка" паедзе з канцэртамі ў Францыю. Неўзабаве будуць падрыхтаваныя адмысловыя каляровыя афішы. Члены ансамбля зараз часцей прыходзяць на рэпетыцыі. Усё дзеля таго, каб добра зарэкамендаваць сябе перад французскай публікай.

**ЯНКА ДАРОЖНЫ**

## АСТАЛОСЯ ЧЫСТАЕ ПАВЕТРА І АБЛОГІ

Як добра ўспамінаецца ваколіцу, у якой ёсць чыстае, здаровае паветра а няма атручальнікаў, якія атручваюць рэкі, равы і іншыя вадаёмы. Можна там прайсціся па мешаных лясах, дзе няма галоўных дарог з мноствам самаходаў, затое ёсць чыстыя грыбы і іншыя лясныя дары. Такую мясцовасць можна знайсці недалёка ад Беластока - гэта вёска Пасынкі ў гміне Заблудаў. Распаложана яна ў шасці кіламетрах ад Заблудава, тры кіламетры ад Зверак. У Пасынках ёсць пункт скупкі малака, да якога возяць малако жыхары суседніх вёсак: Навасады, Жукі, Зверкі і Загрушаны. Пры сацыялізме малако вазілі вазакі, якія былі штатнымі працаўнікамі малачарскай спулдзельні і вазілі 3-4 тысячы літраў кожны дзень. Цяпер жыхары самі, пачарзе, прывозяць малако да "злеўні", але з пяці вёсак дастаўляюць у апошнім часе толькі каля 1050 літраў. Прычынай такога зніжэння з'яўляецца тое, што малако патаннела і гаспадары папрадавалі свае добрыя каровы на мяса. Цялят таксама мала хто гадуе на кароў. Пры сацыялізме кароў апладнялі дабраякасным насеннем і таму можна было выгадаваць карову, якая давала многа тлустага малака. Цяпер жа кароў апладняюць абы-якім бычком, таму і цяляты родзяцца малымі і слабымі. Калі не зменіцца сельскагаспадарчая палітыка, то неўзабаве не хопіць не толькі малака, але мяса і хлеба. Хопіць глянуць на адну толькі вёску Пасынкі, у якой усіх гаспадароў можна палічыць на пальцах адной рукі. У кожнай хаце жыве пенсіянер. Маладых гаспадароў зусім няма і няма каму перадаць зямлю. У вёсцы стаіць 30 дамоў: 7 пустых, у адзінаццаці жывуць адзінокія людзі, а ў апошніх дванаццаці жыве па дзве і больш асоб, якія яшчэ крыху гаспадараць. Праз некалькі гадоў у вёсцы не будзе ніводнага гаспадара, а дамы будуць пуставаць. Ужо цяпер многа зямлі ляжыць аблогамі, на якіх пасуцца зайцы ды казулі. Людзям не аплаціцца засяваць зямлю, бо за працу машын трэба многа плаціць, а збожжа таннае: ніякай карысці - яшчэ даплачваць трэба. Мінеральных угнаенняў ніхто не купляе, бо дарагія; вынікам гэтага з'яўляюцца слабыя ўраджаі. Нашыя ўлады вядуць гаспадарку да ўпадку, не толькі сельскую. На вёсцы цяпер ніхто не будуецца, трактароў ды іншых гаспадарчых машын ніхто не купляе, бо грошай няма, а крэдытаў у банку ніхто не бярэ, бо даб'юць высокія працэнты. Калі гаспадар будзе бедны, то і дзяржава будзе бедная. Сельская гаспадарка дае ўсе патрэбныя сыравіны: збожжа, мяса, скуры, воўну, лён, рапс і многія іншыя. Як можна допусціць, каб мы гэта ўсё куплялі за граніцай, за долары, якіх у нас і так мала, калі можна мець усё сваё; трэба толькі падумаць, што зрабіць, каб людзі набралі ахвоты да працы на гаспадарцы. Пара падумаць, як затрымаць маладых людзей на вёсцы і як ім дапамагчы, каб лягчэй было жыць і працаваць. Гэта можна хутка зрабіць, змяншаючы апрацэнтаванне банкаўскіх крэдытаў: людзі пачнуць тады інвеставаць у свае гаспадаркі, моладзь затрымаецца на вёсцы і пяройме гаспадаркі ад сваіх бацькоў. Як прыклад для сваіх роздумаў узяў я вёску Пасынкі, але вёсак такіх многа, асабліва на ўсходзе нашай краіны.

**МІКАЛАЙ ПУЧКА**

## ПРАГНОЗ КРЫНКАМ

Фанатыкам нашае апалячэласці я не шкадую Крынак, хай займаюць. Там не вельмі ўжо ёсць што і браць... Калі ўся гміна налічвае няшмат больш за чатыры тысячы жыхароў, з якіх амаль тры жыве ў саміх Крынках, дык пра што гэта сведчыць цяперашнім часам? А пра тое, што мястэчка страчвае заплечча, акружасцца наступаючай пушчаю. Кожны трэці дарослы і працаздольны застаецца тут без работы, а сапраўдных гаспадароў можна налічыць каля сарака (сярэдняя іх лічба ў гмінах краіны складае тысячу дзвесце).

На ўсю - немалую - крынкаўскую тэрыторыю з дзесяткамі аганізуючых вёсак аказалася дастаткова адна школы (з некаторых мясцовасцяў давозяць да яе па адным дзіцяці, больш няма). Усіх навучаецца ў ёй паўтысячы, з ліку якіх - праўдападобна - каля чатырохсот вымушана будзе пашукаць потым хлеба ў далейшым свеце, не столькі ў павятовай Саколцы, колькі менавіта ў разбуялым Беластоку, або ў нейкіх амерыках.

Ад часоў зніштажэння ў нас капіталізму адбываецца несціханы заняпад Крынак. Зараз пражывае ў іх усяго чвэрць тае колькасці насельніцтва, якое знаходзілася ў гэтым гістарычным "месце" на пачатку стагоддзя (адных гарбарняў, малых і вялікіх, існавала ў ім дакладна сто сорак чатыры). За той самы перыяд Беласток вырас у чатыры разы, дзякуючы перш за ўсё камуністычнай палітыцы пазбаўлення людзей прыватнай уласнасці і пераўтварэння іх у - цалкам залежную ад дзяржавы - паншчынную масу. У такую гарадызаваную (паняцце ад формы: горад).

Была спроба ўчыніць з Крынак значны асяродак сельскагаспадарчай культуры. Ад пакідаючых сваю зямлю гаспадароў пераняла каля дзесяці тысячаў гектараў яе і ўтворана гіганцкі ПГР. З ім звязала свой жыццёвы лёс блізу паўтары тысячы чалавек, перайшоўшы жыць у сапраўды "мястовыя" кватэры ў новапабудаваных жыллёвых кварталах - у Крынках і неадлеглым адсюль Шудзялаве. Крыху з'ехала сюды і з глыбокай Польшчы. Пакуль кошт прадукцыі не адыгрываў вырашальнай ролі, а важнай была вага атрыманага збожжа і мяса, ПГР трымаўся. Ад моманту ўпадку камунізму і прыходу да голасу эканамічнага рахунку, уся гэта крынкаўская імпрэза зрабілася страшэнна дэфіцытнай; даўгі пайшлі ў мільярды злотых. Пэгээрцы апынуліся ў сітуацыі лішніх: рабі-чыні з сабою, што хочаш, хоць ты ў вадзе тапіся!..

З тых тысячаў гектараў напраўду прыдатных для даходнай сельскай гаспадаркі выявілася пару соцень; рэшта кваліфікуецца пад лясныя пасадкі. Нядаўна арганізавана ў Крынках - дарэчы - надлясніцтва, але яму не трэба такога натоўпу работнікаў; даволі дзесяцьдваццаць.

Другім паважным працадаўцам з'яўлялася гарбарня, у якой зарабляла на хлеб каля двухсот карміцеляў сем'яў.

☞ Працяг на 2 стар.

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Radni z Lipska (gmina — red.) kategorycznie opowiedzieli się za przynależnością do Augustowa (powiatu - red.) To nic, że Lipsk od Augustowa dzieli 32 km bezludnej Puszczy Augustowskiej. To nic, że Dąbrowa (Białostocka, przyszły powiat - red.) znajduje się o przysłowiowy „rzut kamieniem” — około dziesięciu kilometrów. (...) Lipszczacy chcą do Augustowa, bo:*

*— oni byli w Kongresówce, a Dąbrowa w zaborze carskim;*

*— Dąbrowa ma zły skład religijny, bo dominuje tam prawosławie; (...)*

*(Kurier Podlaski, nr 72)*

* * *

***Выбары ў Вярхоўны Савет цягнуцца ўжо тры гады. У 1989 годзе Вярхоўны Савет — філія ЦК — прыняў юрыдычны непісьменны і антыдэмакратычны выбарчы закон, каб забяспечыць перавагу камуністам. (...) Вось звесткі, якія я ўзяў па 8-й акрузе Заводзкага раёну горада Менска. На кандыдатуру і абсалютна безнадзейную справу дзяржава страціла 395905 рублёў. (...) У выніку, з 28000 выбаршчыкаў сабралі 4000 (цётак, пенсіянераў, стойкіх яшчэ камуністаў, што сваім ходам прыйшлі на выбары) і ... высадзілі ў паветра паўмільёна.***

***(Зянон Пазьняк, Навіны БНФ, н-р 1(36).***

Чаму непатрэбны ў Беларусі новыя выбары? Таму што старыя яшчэ не закончыліся. Да восторжествует демократия!

* * *

***Пытанні часта ставіліся рубам: урад антынародны і яго трэба адправіць у адстаўку. З першым ніяк не магу пагадзіцца. Шаноўныя людзі, вы самі выбіралі народных дэпутатаў, прычым у многіх выбарчых акругах у даволі вострай канурэнтнай барацьбе. Так што выбіраць было каго. А ўжо вашыя абранніх вызначылі склад урада. Адправіць у адстаўку ўрад сённяя практычна немагчыма. У былой БССР, ды і сённяшняй Беларусі, наогул не існавала і не існуе механізму такой працэдуры.***

***(Народная газета, н-р 65)***

Мы ўжо калісьці ў гэтай рубрыцы пісалі, што ў Беларусі нічога немагчыма зрабіць. „Цяпер толькі дапоўнім — беларускай народнай мудрасцю: *усё будзе добра, толькі нічога не трэба рабіць.*

* * *

*Nie ma żadnej różnicy programowej między dotychczasowymi czterema rządami. Stąd też nic dziwnego, że ci sami ludzie są ministrami w kolejnych rządach, mimo że te rządy obrzucają się błotem na takiej samej zasadzie, jak w rodzinie, kiedy pokłóci się mąż z żoną. Pozostają jednak nadal małżeństwem i po pewnym czasie godzą się. Obecny rząd pani Suchockiej jest rządem zgody Komitetu Obywatelskiego, ponieważ mamy tam ludzi ze wszystkich poprzednich rządów. Mamy Kuronia z rządu Mazowieckiego, mieliśmy Dykę i mamy Kropiwnickiego z rządu Olszewskiego.*

*(Gazeta Polska, nr 15-16)*

Stąd dość nieoczekiwany wniosek: *Polska rządem stoi.*

* * *

*Białoruś przystąpi do układu o zbiorowym bezpieczeństwie z Rosją i innymi poradzieckimi republikami (Kazachstanem, Tadżykistanem, Kirgizją, Uzbekistanem i Armenią) — postanowił wczoraj parlament w Mińsku. (...)*

*Od czasu przyjęcia deklaracji niepodległości w 1991 roku Białoruś dążyła do neutralności. Wczoraj deputowani 192 głosami przeciwko 30 zmienili ten kurs o 180 stopni.*

*Minister Obrony gen. Paweł Kozłowski powiedział deputowanym, że nie może wykluczyć, iż sąsiedzi zgłoszą wobec Białorusi roszczenia terytorialne.*

*Również szef KGB gen. Szyrkowski straszył deputowanych wizją groźnych sąsiadów. (...) Stwierdził, że na Zachodzie już się mówi dyskretnie o rewizji granicy między Białorusią a Polską. — KGB ma informacje — powiedział — że Polska przemieszcza swoje wojska na wschód. Zauważył też, że Polska, Litwa i Łotwa chcą wstępować do NATO.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 85)*

* * *

**Пытанне:** *Odnieść można wrażenie, że ekumenizm w warunkach polskich sprowadza się do jednego tygodnia w roku wspólnych modlitw i okolicznościowych konferencji teologów różnych wyznań. Nie widać natomiast codziennej współpracy np. z ewangelikami na Śląsku Cieszyńskim czy z prawosławnymi na Białostocczyźnie.*

**Адказ:** *Sytuację w Polsce trudno porównać do tej w Niemczech czy w Anglii. Ludzie innych wyznań spotykają się tam na co dzień. Podczas gdy u nas jest to „folklor”. Ze strony innych wyznań zajmowana jest pozycja obronna wobec kolosa, jakim jest Kościół katolicki, który wystarczy, że ruszy łokciem, a już wszystko wokół się wali. Jesteśmy Guliwerem w krainie liliputów,* — сказаў біскуп Тадэуш Перонэк у інтэрв'ю для тыднёвіка „Polityka”.

*(Polityka, nr 16)*

## З мінулага тыдня

**50-тыя ўгодкі выбуху Паўстання ў Варшаўскім гета святочна адзначаліся ва ўсёй краіне.** Галоўныя ўрачыстасці адбыліся ў Варшаве з удзелам найвышэйшых дзяржаўных улад. У святкаваннях удзельнічалі, між іншым, прэм'ер-міністр Ізраіля **Іцхак Рабін**, віцэ-прэзідэнт ЗША **Альберт Гор** і старшыня Сусветнага кангрэса яўрэяў. У Беластоку ваяводскія і гарадскія ўлады ўзлажылі кветкі да абеліска героям Беластоцкага гета на вул. Жабяй, да мемарыяльнай дошкі на месцы сінагогі на вул. Сураскай і на магільніку ў квартале Пятрашы.

**Віцэ-прэзідэнт ЗША Альберт Гор**, які прабываў у Польшчы, сустрэўся з прэзідэнтам **Лехам Валэнсам**, размаўляў з прэм'ер-міністрам **Ганнай Сухоцкай** і міністрам замежных спраў **Кшыштафам Скубішэўскім**. Падчас гэтых сустрэч разглядаліся мытныя пытанні паміж абедзвюмі краінамі, адкрыццё амерыканскага рынку для польскіх тавараў, а таксама справа ўваходу Польшчы ў НАТО.

**Прэзідэнт РП Лех Валэнса** прабываў у ЗША з чатырохдзённым неафіцыйным візітам, падчас якога сустрэўся з прэзідэнтам **Білам Клінтанам** і статс-сакратаром **Уорэнам Хрыстоферам**. Прэзідэнт РП прыняў удзел у адкрыцці Музея Holocaust і спаткаўся з амерыканскай "паленіяй".

**Пасол Ежы Капаня** з Беластока выбраны старшынёю сеймавай Камісіі па справах нацыянальных і этнічных меншасцяў. Да гэтай пары функцыю гэтую выконваў **Ян Пянткоўскі**, які нядаўна стаў міністрам юстыцыі.

**Сітуацыя польскіх цыганоў /ромаў/** можа драматычна пагоршыцца ў сувязі з магчымасцю вяртання назад нелегальных эмігрантаў з Нямеччыны - сцвярджае **Станіслаў Станкевіч** з Беластока, віцэ-прэзідэнт Сусветнай арганізацыі ромаў Romani Union. На яго думку кожны месяц вяртаць будуць з Нямеччыны каля трох тысяч чалавек, галоўным чынам румынскіх цыганоў і румынаў. Многія з іх будуць хацець астацца даўжэй у Польшчы і гэта можа стварыць новыя, невядомыя раней канфлікты паміж польскімі і румынскімі цыганамі, выклікаць небяспечныя настроі і ксенафобію ў грамадстве.

**Міністр нацыянальнай абароны Януш Анышкевіч** нанёс двухдзённы афіцыйны візіт у Беларусь, падчас якога было падпісана пагадненне аб вайсковым супрацоўніцтве паміж абедзвюма краінамі.

Згодна распараджэнню міністра нацыянальнай абароны неўзабаве будзе створаны **Праваслаўны ардынарыят Войска Польскага** з сядзібай у Варшаве. Праваслаўны палявы ардынарый у сферы выканання прафесійнай ваеннай службы будзе падлягаць шэфу ведамства абароны. Падставай дзейнасці новай установы будуць кананічныя прынцыпы Праваслаўнай царквы, а таксама статут, ухвалены Свяшчэнным саборам епіскапаў Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы.

**Па ініцыятыве Сувальскага ваяводы Цэзары Цеслюкоўскага** адбылася сустрэча з генеральным консулам РБ у Гданьску **Аляксеем Шахновічам**. У часе спаткання ставілася справа магчымасці адкрыцця кантрольна-прапускнога пункта ў Ліпшча- нах (гміна Ліпск), які выдатна скараціў бы дарогу з Сувалкаў у Гродна.

З удзелам сарака фірм прайшоў у Беластоку спажывецкі кірмаш **"Biznes-Expo'93"**. Пачала таксама сваю дзейнасць Усходняя біржа тавараў. Яе мэтай, так як і кірмашу, з'яўляецца пасрэдніцтва ў продажу польскіх тавараў і паслуг на літоўскі, беларускі і калінінградскі рынкі. На кірмашы экспанаваліся харчовыя прадукты, камп'ютэрная тэхніка, радыё- і тэлеапаратура, адзенне, касметыка і матэрыялы для будаўніцтва.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ”

➤ Амаль усё пра Чыжоўскую гміну.

➤ Старэе і бяднее заблудаўская зямля.

➤ Беларускія школы ў II Рэчыпаспалітай.

➤ Асліны твар беларускага капіталізму.

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### ТЫ — МНЕ, Я — ТАБЕ

Падобна на тое, што ЗША маюць намер развіваць доўгатэрміновыя і трывалыя адносіны з Рэспублікай Беларусь. Важным этапам у развіцці плённых двухбаковых адносін стала падпісанне пагаднення аб арэндзе зямельнага ўчастка на Беларусі амерыканскім пасольствам і пераход ва ўласнасць Пасольства Рэспублікі Беларусь у ЗША будынка XIX стагоддзя, помніка архітэктуры ў цэнтры Вашынгтона.

### СВАЁЙ УЛАСНАЮ РУКОЙ

З ініцыятывай правесці 15 красавіка ў Менску масавую грамадзянскую акцыю „Народ — супраць карупцыі наменклатуры” выступілі Беларускі народны фронт, Незалежны прафсаюз Беларусі і шэраг іншых дэмакратычных арганізацый. У яе рамках адбўся мітынг і шэсце ад будынка былога ЦК КПБ да гарадской пракуратуры з мэтай прыцягнення ўвагі кантрольных і судовых органаў да шматлікіх фактаў злоўжыванняў і карупцыі кіруючай пракамуністычнай наменклатуры.

### „ЗАЙГРАЙ, ЗАЙГРАЙ, ХЛОПЧА МАЛЫ...”

Да 1 ліпеня працягнецца конкурс на гістарычную тэму, прысвечаны памяці паэта і мастака-каваля Паўлюка Багрыма. Сярод яго арганізатараў і Аб'яднанне беларусаў свету „Бацькаўшчына”. Ва ўмовах конкурсу кожны ўдзельнік можа прадставіць на агляд журы толькі адзін твор, толькі на беларускай мове і толькі на гістарычную тэму: верш, песню, а таксама твор жывапісу, кавальскага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

### ПЕРАШЫЕМ ПАРАШУТЫ НА КАШУЛІ

За мінулы год камерцыйным упраўленнем Міністэрства абароны Беларусі рэалізавана лішкаў тэхнікі, ваеннай маёмасці, якая паявілася ў ходзе раззбраення войска, на 512 мільёнаў рублёў.

За I квартал бягучага года ўжо атрымана каля мільёна рублёў. Самым вялікім попытам карыстаюцца грузавыя аўтамабілі з дызельнымі рухавікамі, радыёстанцыі і парашуты. Усяго прапануецца каля 500 найменняў. Асабліва задаволены камерцыялізацыяй войска пакупнікі — фермеры, калгасы, лясніцтвы, малыя прадпрыемствы, кааператывы.

### СВАБОДНЫЯ ЦЭНЫ НЕ ПРОЙДУЦЬ!

Ва ўсялякім выпадку пакуль жывы Савет Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, які лічыць, што дзяржаўнае рэгуляванне цэн на асноўныя прадукты харчавання неабходна захаваць. Прэзідыум Савета патрабуе таксама правядзення не пазней сакавіка 1993 года датэрміновых выбараў Вярхоўнага Савета і, адпаведна, фарміравання новага ўрада.

### І МЫ ТАМ БЫЛІ...

З бронзавым медалём вярнуліся з міжнароднага конкурсу піва ў межах выстаўкі-кірмашу „Піва-93” беларускія піваварны. Яго ўдастоены новы гатунак „Бурштын Беларусі”. У журы конкурсу ўваходзілі прадстаўнікі Мюнхенскай канвенцыі піваварў.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

## ПРАГНОЗ КРЫНКАМ

☛ *Працяг са стар. 1*

Блізу палова ўжо непатрэбная. На гэтай лічбе не канец. Гарбарня інтэгруецца з італьянскай фірмай, якая дасць ёй навейшую тэхналогію, выкіне прэч тую царскую, і хопіць тады якіх-небудзь сорак гарбароў...

Як трэці местачковы патэнтат, бушаваў ГС. Але, пасадзілі яго ў лужу дзесяць маладых крамнікаў, у лаўках якіх не трактуюць кліента як ворага, а тавар прапануюць лепшы і - часта - па ніжэйшай цане. Крамнікі хутка багацеюць, элегантна разбудоўваюць крамы. ГСаўцы - падаўняму нябандычаныя - ратуюцца вырабам мінеральнай вады "Крынка", якой у глыбінях тутэйшай даліны цэлае бясплатнае возера, і нябляга збываюць яе аж на Шлёнску. Ікныя крамы не даюць прыбытку. Не зусім ясна таму, нашто іх яшчэ трымаюць? - Спадзяюцца Цімашэвіча ў прэзідэнтах? Калі так, дык наіўныя яны. Цімашэвіч, як той Бразаўскас у Літве, надалей будаваў бы ўсё роўна капіталізм; камунізму ніхто не забіў, ён сам сканаў - можна сказаць - ад старасці; вычарпаўся.

На месцы некаторых вёсак застануцца адна-дзве фермерскія гаспадаркі, высокадаходныя. Не столькі, можа быць, хлебаробскія, колькі якраз жывёлагадоўчыя; тут цудныя лугі ў далінах рэчак, разлогах. Крынкі як такія акажуцца ўсё завялікімі і мусяць рэдукавацца да памераў аднатысячнай - з безлiччу ўсякіх бізнесаў - мясціны, у якой не будзе хмары лішніх людзей, перабіваючыхся на "куранёўках" або жабрачых рэнтах у курных хацінах.

Што ж, такая еўрапейская норма: чалавек прыходзіць на свет, каб добра жыць, а не карміць блох.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

 

Лісты ў рэдакцыю

**ДАРАГАЯ РЭДАКЦЫЯ!**

Дзе падзелася інфармацыя пра змест „Нівы", якую кожны чацвер можна было пачуць у радыёперадачы „Пад знакам Пагоні" ў Беластоцкім радыё? Ці рэдакцыя не хоча інфармаваць пра існаванне свайго тыднёвіка (у што цяжка паверыць), ці дырэкцыя Беластоцкай радыёстанцыі забараніла? Кожны дзень, раніцай, радыё інфармуе пра змест польскамоўных газет. Чаму тады дыскрымінуецца „Ніва"?

**ПАВЕЛ ЯКІМЧУК,**
**Беласток**

**АД РЭДАКЦЫІ:** Вы маеце рацыю, інфармацыя пра змест „Нівы" сапраўды забаронена ў радыёперадачах „Пад знакам Пагоні", але не па загаду дырэктара Беластоцкага радыё, але толькі па распараджэнню Уладзіслава Праховіча, кіраўніка рэдакцыі, якая рыхтуе перадачы для нацыянальных меншасцяў. Наогул, калі штосьці знікае з нашага грамадскага жыцця, трэба дадумоўвацца, што за гэтым стаіць актыўнасць г. зв. „нашых хлопцаў".

У справе штотыднёвых інфармацый пра змест „Нівы", дык Пан кіраўнік аднойчы паінфармаваў нас, што не спадабаліся яму некаторыя „ніўскія" артыкулы, а асабліва выказванне Міколы Лук'янюка, што колішнія беларускія радыёперадачы, рыхтаваныя Віктарам Рудчыкам, былі намнога цікавейшымі, чым цяпер, і артыкул Аляксандра Вярбіцкага, у якім ён закідаў нейкія недарэчнасці аднаму з размоўцаў У. Праховіча. Магчыма, калі б мы ў кожным нумары „Нівы" пісалі пра вялікае мастацтва перадач, робленых Панам кіраўніком, яшчэ пару месяцаў маглі б карыстацца „рэкламай" па радыё, як і ўсе беластоцкія газеты.

Прынцыпова і з этычных прычын не можам адабраць цэнзарскіх імкненняў некаторых „нашых" дзядзькоў, хаця некаторыя з іх маюць на гэта проста шалёную ахвоту. Няшчаснікі не заўважылі нават, што свет мяняецца, а яны ўсё яшчэ стаяць у зэтэмпоўскіх ці зэтэмэсаўскіх радах. Што ж, маладосць гэта час, які ўсе ж найбольш любім і памятаем, бяда аднак, калі ён спыняецца на нейкім адным месцы.

* * *

**Шаноўны Спадар Міpановіч, Паважаны Калектыў Рэдакцыі "Ніва".**

Дазвольце мне зацікавіць Вас і другіх беларускіх дзеячоў культуры народным фальклорна-этнаграфічным ансамблем "Неруш" з Мінска.

У 1991 годзе Саюз сялянскай моладзі арганізаваў "Konfrontacje Artystyczne Wsi Polskiej - Tarnów '91". Я запрапанавала запрасіць ансамбль "Неруш", які прыняў удзел як госць фестывалю. На працягу чатырох дзён я была з імі на ўсіх канцэртах, дзе "Неруш" завяваў усю публіку да такой ступенні, што канцэрты "на біс" даўжыліся і да паўгадзіны. І то дзе - у Тарнаве! Летам 1992 года Ваяводскі асяродак анімацыі культуры ў Беластоку і Гайнаўскі дом культуры запрасілі "Неруш" удзельнічаць у міжнародным (былі калектывы з Літвы, Украіны) семінары на тэму славянскага фальклору, які адбыўся ў Рыбаках (што каля Нарвы). Апрача заняткаў, вечарамі адбываліся канцэрты ў навакольных вёсках. І для мяне здарыўся тут сапраўдны цуд; людзі на вёсках пачалі гаварыць, што яны беларусы і патрабуюць культурнай падтрымкі з боку беларусаў, а не ўкраінцаў ці палякаў.

І вось з гэтай нагоды я пішу да Вас і дасылаю інфармацыю-буклет "Неруша", з вялікай просьбай. Мо знойдуцца беларускія дзеячы культуры, якія будуць арганізаваць нейкія мерапрыемствы і захочуць запрасіць сапраўдны беларускі ансамбль? А мо знойдзецца хтосьці, хто хацеў бы сарганізаваць канцэртны маршрут па Беласточчыне (я ўпэўнена, што жыхары Гайнаўкі, Бельска ці навакольных вёсак гэтага патрабуюць).

"Неруш" існуе больш за 10 гадоў. З першапачатковага саставу засталося некалькі чалавек. Апошнім часам прыходзіць шмат прафесіяналаў. Ансамбль - лаўрэат многіх рэспубліканскіх, саюзных і міжнароднага конкурсаў фальклорных калектываў. Быў з канцэртамі ў Балгарыі, Польшчы, Нямеччыне (2 разы; апошні раз у лютым г.г.; удзельнічаў у карнавале ў горадзе Дзюсельдарф), Аўстрыі. З вялікім поспехам прайшла паездка па Нарвегіі. У чэрвені г.г. плануюць доўгую паездку па Скандынавіі. Калектыў быў запрошаны ў ЗША і Канаду (паездкі не адбыліся з-за фінансавых цяжкасцей).

Зараз на базе "Неруша" створаны мастацка-творчы цэнтр "Ярыла", які збіраецца заняцца заняццем захаваннем і равіццём беларускай культуры, і не толькі ў песнях, танцах, касцюмах, але і дзіцячай творчасцю і г.д. І яшчэ пару слоў аб касцюмах. Кожны касцюм - амаль арыгінальны, зроблены з натуральнага сукна і ў адзіным экземпляры(!). Усе касцюмы - з розных куткоў Беларусі, як і песні, і танцы, і жарты, і музычныя нумары - гэта цэлы тэатр!

Калі хтосьці сур'ёзна зацікавіцца "Нерушам", яны вышлюць аўдыё- ці відэакасету. Пісаць ім лісты можна на мой адрас (02-766 Warszawa, ul. Nowoursynowska 161; D.S. "GRAND") ці па факсу ў Беларускае ЮНЭСКА з прыпіскай: = для ансамбля "Неруш" = (7-0172/275659; 341190).

Прашу прабачэння за памылкі. Лепш мне было б пісаць па-польску, але ж у нас ёсць свая мова, самая прыгожая ў свеце!

**АННА ЛЕАНЮК**

Ад рэдактара:

**Паважаная Спадарыня Анна!**

Вы, як большасць беларусаў, недаацэньваеце сябе і сваіх літаратурных магчымасцей. Пішаце знакаміта па-беларуску, без параўнання лепш, чым некаторыя міністры, якія кіруюць беларускай дзяржавай, не ўспамінаючы дэпутатаў, якія ў большасці гаворац выключна на замежнай мове. Ваша дарога да беларускасці, прадстаўленая ў гэтай частцы лісту, якой не жадаеце публікаваць (шкада!) ёсць амаль сімвалам лёсу нашай інтэлігенцыі, якая гадамі шукае сваю тоеснасць.

А ў справе калектыва "Неруш", дык мы з прыемнасцю друкуем інфармацыю пра яго і лічым, што зацікавяцца ім арганізатары культурных мерапрыемстваў на Беласточчыне.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

# БНР —ТУТ І ЦЯПЕР (У ГДАНЬСКУ)

75-тыя ўгодкі абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі ў Гданьску святкавалі 25 сакавіка 1993 г. Вечарыну ўдастоілі Генеральны консул Рэспублікі Беларусь у нашым горадзе Аляксей Шахновіч і прадстаўнікі ваяводскіх улад. Сабралася шмат людзей, так што нават не ўсе маглі памесціцца ў зале пры вуліцы Альжбітанскай, 10. Сярод гасцей былі, між іншым, Кіра Фэнц — сваячка прэзідэнта БНР у гадах 1928-1943 Васіля Захаркі, Вітаўт Стаповіч — братанак Канстанціна і Альбіна, беларускіх дзеячоў у ІІ Рэчыпаспалітай і дзеці Хасана Канапацкага — Тамара і Мацей. Трэба было дачакацца 75-тых угодкаў абвяшчэння БНР, каб спаткаць у Гданьску столькі людзей, якіх блізкія прысвяцілі сваё жыццё адраджэнню беларускай дзяржаўнасці.

Варта пры гэтай нагодзе ўспомніць людзей, дзякуючы якім пратрывала ў нашай памяці ідэя БНР — Пятра Крэчэўскага — прэзідэнта Рады ў гадах 1925-1928, які не дапусціў да спынення яе дзейнасці на канферэнцыі ў Берліне ў 1925 г., Васіля Захарку, які кіраваў Радай у найбольш неспрыяльны для беларусаў перыяд, Альбіна Стаповіча, Хасана Канапацкага — змагароў за беларускасць у ІІ Рэчыпаспалітай.

Пасля гімна „Мы выйдзем шчыльнымі радамі" Дарота Голуб прачытала даклад, у якім прадставіла гісторыю ўзнікнення БНР, Лена Глагоўская расказала пра беларускіх эмігрантаў, якія жылі і дзейнічалі ў Гданьску, а Мацей Канапацкі выказаў свае рэфлексіі наконт сучаснага лёсу Беларусі. Пасля былі пажаданні беларусам ад прадстаўнікоў гданьскага ваяводы і даклад консула Беларусі ў Гданьску, спадара А. Шахновіча, які расказаў пра першыя формы беларускай дяржаўнасці — Полацкае княства і Вялікае княства Літоўскае.

На заканчэнне Эля Мацкевіч праспявала пад гітару пару патрыятычных песняў. Была святочная атмасфера, было неяк інакш і толькі мучыла пытанне: калі дзень абвяшчэння Беларусі стане афіцыйным, дзяржаўным святам, такім як для палякаў ёсць дзень 11 Лістапада.

**ЛЕНА ГЛАГОЎСКАЯ,**
**Гданьск**

# КЛОПАТЫ ГМІННАЙ АХОВЫ ЗДАРОЎЯ

Гмінны асяродак здароўя ў Мілейчыцах змяшчаецца ў старым двухпавярховым драўляным доме, якому ўжо больш за паўвека. Будыніна гэта была ўзведзена перад вайною з прызначэннем для тагачаснай гміннай адміністрацыі. Пасля вайны пасялілася ў ёй ахова здароўя. Свайго часу быў тут нават радзільны дом, а зараз на першым паверсе знаходзяцца лекарскія кабінеты, а на другім - кватэра стаматолага. Працаўнікі асяродка наракаюць на тэхнічны стан будынка. У мінулым праводзіліся ў ім розныя рамонты і мадэрнізацыі, і ў выніку будынак быў прыстасаваны да выканвання сваёй функцыі. Цяпер стаў працякаць дах і патрэбны неадкладны рамонт. У ЗОЗ у Сямяцічах, якому асяродак падлягае, з рамонтам не спяшаюцца, бо няма на гэта грошай.

Персанал Гміннага асяродка здароўя складаюць два лекары (інтэрніст і дантыст) і тры медсёстры, якія нясуць медыцынскую дапамогу для амаль трохтысячнага насельніцтва гміны. Два разы ў тыдзень карыстаюцца яны санітарна-легкавой машынай, астатнія тры дні "карэтка" дапамагае суседнім асяродкам у Нурцы-Станцыі і Клюковічах. Карыстацца машынай дапамагае Гміннаму асяродку войт гміны, які прызначае кожны месяц 500 тысяч зл. на бензін. Калі няма службовай "карэткі", кіраўніку асяродка даводзіцца даязджаць да хворых на сваёй машыне.

Кіраўніком асяродка здароўя з'яўляецца лекар-інтэрніст Ананій Савіцкі, карэнны мілейчук, які пасля навукі і працы ў іншых мясцовасцях Беласточчыны, у пачатку васьмідзесятых гадоў вярнуўся ў родную мясцовасць. Доктар Савіцкі пабудаваў тут сабе дом і не намерваецца выязджаць адсюль. На пытанне аб праблемах вясковай медыцынскай службы адказаў:

- Нашыя праблемы тыповыя для вёсак на т. зв. "усходняй сцяне". Сярод насельніцтва людзі ў сталым узросце, пенсіянеры. Апошнім часам, заўважаю, што людзі ў меншай ступені карыстаюцца медыцынскай апекай. Шторазменш паступае заказаў на дамашнія візіты, менш людзей выязджае ў санаторыі, а пенсіянеры патрабуюць менш рэцэптаў на лякарствы. Але, на жаль, гэтыя з'явы не вынік паляпшэння стану здароўя грамадства, а хутчэй рэзультат паступаючага збяднення вясковага насельніцтва. Селяніну, а тым больш пенсіянеру, проста не хапае грошай ці то на паездку ў санаторыю, ці то на лякарствы, якія раней пенсіянеры атрымоўвалі бясплатна. Наш калектыў імкнецца забяспечыць самую элементарную медыцынскую апеку насельніцтву гміны.

У Мілейчыцах раней была аптэка, але з моманту пераходу фармацэўта на пенсію, стала яна ўсяго аптэчным пунктам, у якім прадаюцца гатовыя лекі. Зараз працуе ў ім тэхнік фармацыі. Чыненыя войтам гміны спробы знайсці для гэтай аптэкі фармацэўта аказаліся безвыніковымі. Пад пагрозай апынулася і само існаванне аптэчнага пункта, бо ён не зарабляе нават на зарплату для аптэкара. Каб не дапусціць да ліквідацыі пункта гміна нясе ўсе кошты ўтрымання будынка, а беластоцкі "Цэфарм" аплачвае толькі працу тэхніка фармацыі і рахункі за ваду і электраэнергію. Калі б ліквідаваць аптэчны пункт у Мілейчыцах, жыхарам гэтай гміны давялося б за лякарствамі ездзіць у Нурэц-Станцыю або Сямяцічы.

Адным словам, у бедным грамадстве не разжывецца ні лекар, ні аптэкар.

**В. ЛУБА**

# ЗБУДАВАЎ ЯРАСЛАЎ ДОМ...

Збудаваў Яраслаў прыгожы дом. Хацеў усё ў сярэдзіне хутка парабіць, каб увайсці да каляд. Наняў найлепшых майстроў, каб акуратна вырыхтавалі пакоі.

Спачатку канчалі другі паверх. Два пакоі былі ўжо гатовыя. Застаўся яшчэ адзін, у якім паставілі пластмасавую бочачку з "хэмалакам", паскладалі пакавальную паперу. Пачалі тынкаваць сцены і ў тым пакоі. Падвечар адзін з рабочых запаліў папяросу, потым кінуў незадушаны недакурак.

Цэлую ноч і раніцу дыму не было відаць. Толькі ў абед знюхалі, што недзе пахне прыгарэлым. Потым бухнуў дым. Спачатку не маглі здагадаца, дзе гарыць. Агледзелі склеп, першы паверх... На другім паверсе дым ужо выядаў вочы. Ледзь удалося дайсці да балкона. Паднялі гвалт, збегліся суседзі. Схапілі людзі вёдры, пачалі ліць, дзе папала; усё не было відна, дзе гарыць.

У рэшце рэшт усё высвятлілася. Гэта памалу тлелася папера. Мала бракавала, каб поўнасцю загарэлася... Тады ўспыхнула б бочка з лакам, а потым - невядома, ці ўдалося б патушыць агонь! Ад бяздумна кінутай папяросіны магла б быць вялікая бяда.

**АЎРОРА**



 

# СІЛА Ў АРГАНІЗАВАНАСЦІ

**ІНТЭРВ'Ю З ГЖЭГАЖАМ СХЕТЫНАЙ, ГЕНЕРАЛЬНЫМ САКРАТАРОМ КРАЁВАГА БЮРО ЛІБЕРАЛЬНА-ДЭМАКРАТЫЧНАГА КАНГРЭСА.**

**Я. Іванюк:** *— Можа на пачатак скажыце, калі ласка, некалькі слоў пра гісторыю і палітычную праграму Ліберальна-дэмакратычнага кангрэса.*

**Г. Схетына:** — Ліберальна-дэмакратычны кангрэс — гэта маладая партыя, якая ўзнікла амаль тры гады таму назад. Гэта партыя з даволі элітарным характарам, якая аб'ядноўвае амаль чатыры тысячы членаў. У Сейме, калі гаварыць пра колькасць паслоў, з'яўляемся чацвёртым клубам, які налічвае больш за 50 паслоў.

Наша партыя мае класічна ліберальную праграму. З'яўляемся групоўкай адкрытай на Еўропу. Вялікую ўвагу звяртаем на эканоміку. Апрача гэтага можна пра нас сказаць, што з'яўляемся партыяй прагматычнай і рацыянальнай. Гэта толькі, калі гаварыць аб праграме.

*— Скажыце, як Ліберальна-дэмакратычны кангрэс бачыць польскую ўсходнюю палітыку, а канкрэтна — якую мае візію стасункаў з Рэспублікай Беларусь?*

— Наша партыя заўсёды прыдавала даволі вялікае значэнне як сваім адносінам да нацыянальных меншасцяў у Польшчы, так і міжнародным адносінам, асабліва з нашымі бліжэйшымі суседзямі. Калі гаварыць пра Беларусь, гэта менавіта Ліберальна-дэмакратычны кангрэс, як адна з першых палітычных груповак у Польшчы, распачаў праводзіць перамовы і наладжваць супрацоўніцтва з палітычнымі структурамі ў Беларусі. Утрымоўваем кантакты з Аб'яднанай дэмакратычнай партыяй Беларусі. Адбылося ўжо некалькі сустрэчаў; мы запрасілі ў Польшчу дэлегацыю гэтай партыі з яе старшынёю — спадаром Дабравольскім. Члены гэтай партыі прадстаўляюцца як беларускія лібералы.

У часы, калі Ян Кшыштаф Бялецкі быў прэм'ер-міністрам, наступіла адкрыццё Польшчы на сустрэчы з палітычнымі элітамі Беларусі. Думаю таксама, што гэтыя суадносіны, якія распачаліся даволі нядаўна, бо два гады таму назад — будуць надалей развівацца ў сяброўскай атмасферы і з гэтай палітычнай дзялянкі будуць пераносіцца на гаспадарчыя справы, на справы гандлёвага абмену.

*— Дайшлі мы да даволі істотнай для лібералаў справы — да эканомікі. Якое месца займае Беларусь, калі гаварыць пра гэтую дзялянку адносінаў?*

— Беларусь займае тут сапраўды вельмі істотнае месца. Гэта зразумелае, што Беларусь з'яўляецца рынкам для польскіх тавараў і паслугаў. Думаю, што менавіта ў галіне эканомікі месца на супрацоўніцтва шмат і гэтае месца памалу трэба запаўняць. Аднак ініцыятыва, на маю думку, павінна быць з абодвух бакоў: як з польскага, так і з беларускага. У будучыні неабходным з'яўляецца ўтварэнне супольных польска-беларускіх прамыслова-гандлёвых палатаў, таксама як маюць быць утвораныя такія ж польска-ўкраінскія палаты. Гэта ўсё будучыня. Над утварэннем такіх палатаў трываюць працы, але нельга яшчэ гаварыць пра канкрэтныя даты ці тэрміны, у якіх гэта мае здзейсніцца. Гэта павінна быць эфектам супрацоўніцтва, абмену канцэпцый, думак, якія — спадзяюся — будуць рэалізавацца ў будучыні.

*— А як, у сваю чаргу, Ліберальна-дэмакратычны кангрэс ацэньвае сітуацыю беларускай нацыянальнай меншасці на Беласточчыне?*

— Як я ўжо гаварыў на пачатку, гэта менавіта Ліберальна-дэмакратычны кангрэс з'яўляецца такой палітычнай групоўкай, якая ад пачатку свайго існавання мае добрыя адносіны з нацыянальнымі меншасцямі ў Польшчы. Напрыклад, у Ольштынскім ваяводстве мы пайшлі на парламенцкія выбары разам з украінскай меншасцю. Значыць, праграмныя справы быццам нас там спалучалі.

Думаю, што падобныя адносіны з'яўляюцца справай відавочнай і зразумелай — прынамсі для Кангрэса. Такое пытанне трэба таксама паставіць прадстаўнікам нацыянальных меншасцяў у Польшчы. Значыць, маю тут на думцы іх спосаб і ступень арганізацыі, іх магчымасці, іх палітычныя эліты. Лепшыя адносіны паміж Кангрэсам і беларускай меншасцю будуць тады, калі гэтая меншасць будзе лепш сарганізаваная, калі будзе магчымасць партнёрскага супрацоўніцтва.

*— Апошнім часам сярод беларусаў у Польшчы ходзяць чуткі, што ў Варшаве арганізуецца беларуская партыя з нацыянал-ліберальнай праграмай. Ці думаеце, што гэта можа быць нейкі партнёр для Ліберальна-дэмакратычнага кангрэса?*

— Я, гаворачы пра партнёра, гавару пра нейкую сарганізаваную структуру меншасці, а не пра палітычную партыю. Маю тут на думцы нейкую структуру, якая мае свае ўлады, свайго старшыню і мае нейкія канкрэтныя прынцыпы фінансавання, бо гэта менавіта з'яўляецца бадай найважнейшым. Я не ведаю, ці ідэя палітычнай партыі, якая была б прадстаўніком меншасці, з'яўляецца добрай думкай. У кожным выпадку, нідзе нешта такое не выступае. Магчыма, што будзе гэта адзін з эксперыментаў на дарозе пошукаў сваёй тоеснасці. Калі гэтая партыя такую менавіта ролю адыграе, то — на маю думку — будзе гэта вельмі карысным.

*— Я думаю, што гэта менавіта меншасць прымушаная чакаць на нейкі жэст з боку большасці. Ці Кангрэс зрабіў нейкія крокі ў напрамку наладжання супрацоўніцтва з беларускай меншасцю?*

— Так, нашыя кантакты з самой Беларуссю ці Украінай аўтаматычна перакладаліся на кантакты з меншасцямі. Тое, што Польшча як першая дзяржава прызнала незалежнасць Украіны, было вялікім жэстам і гэта адразу перакладалася на нашыя адносіны з украінскай меншасцю ў Польшчы. Думаю, што падобна будзе з беларускай меншасцю. Натуральным з'яўляецца супрацоўніцтва ў Сейме з колам нямецкай меншасці. Супольна вырашаем з імі пэўныя праграмныя справы.

Думаю, што гэта сутнасць нашай ліберальнай праграмы адкрытасці. Гэта ёсць тыя справы, якія будзем рабіць. Але, як ужо гаварыў на пачатку, каб было добрае супрацоўніцтва — павінны гэтага хацець абодва бакі. Калі воля супрацоўніцтва будзе праяўляцца з абодвух бакоў, то будзе добра.

*— Адабрэнне Сеймам новага закона аб выбарах — гэты пяціпрацэнтны парог хіба выключае ўдзел нацыянальных меншасцяў у працах польскага парламента. Як вы лічыце: ці патрэбным усё ж такі з'яўляецца павелічэнне прадстаўніцтва нацыянальных меншасцяў у польскім парламенце?*

— Не думаю, каб гэты новы закон аб выбарах выключаў удзел нацыянальных меншасцяў у працах Сейма. У гэтым жа праекце палажэння аб выбарах — што пра яго ні гаварыць — знаходзіцца ўсё ж такі пункт, што гэты пяціпрацэнтны парог нацыянальных меншасцяў не тычыцца. Значыць гэта, што пры такім палажэнні аб выбарах, прадстаўнікі меншасцяў маюць магчымасць знайсціся ў парламенце. І гэта вельмі добра. Я сабе не ўяўляю, каб у дэмакратычнай ужо Польшчы забракла ў Сейме, скажам, прадстаўнікоў беларусаў ці ўкраінцаў. Але гэта будзе эфектам, як мы ўжо раней гаварылі, сарганізаванасці. Гэта значыць, што калі выбарчая кампанія нацыянальных меншасцяў будзе добра сарганізаваная, калі будуць падпісаны нейкія мясцовыя выбарчыя пагадненні, то — спадзяюся — што прадстаўнікі меншасцяў знойдуцца ў парламенце. І гэта будзе вельмі добра як для меншасцяў, так і для парламента.

*— Значыць: сіла ў самаарганізацыі?*

— У галоўным — так. І думаю, што найлепш будзе, калі прафесійнай арганізацыяй такой структуры зоймуцца маладыя людзі.

*— Сардэчна Вам дзякую за размову.*

**ЯРАСЛАЎ ІВАНЮК**



## ТАВАРЫШЫ НЕ ЗАПЛАКАЛІ

Нядаўна памёр у нашай ваколіцы адзін з ветэранаў камуністычнага руху. Здарылася неяк так, што я, выконваючы свае абавязкі пісьманосца, зайшоў у суседняй вёсцы ў хату яго таварыша, з якім ён, як мне здавалася, сябраваў дзесяцігоддзямі. Згаварыліся мы пра нябожчыка і тут, пасля некалькіх хвілін размовы з гаспадаром, я проста аслупянеў. Пачуўшы пра смерць свайго таварыша стары камуніст аж падскочыў ад радасці. А я думаў, што яны прынамсі паважалі адзін аднаго, бо тое, што абодва не пераносілі беларускасці я ведаў здаўна. Не ўспомню ўжо тое, што яны гаварылі пра "Ніву" ці БДА. Дасталася і БГКТ, а асабліва за пабудову музея ў Гайнаўцы. Наша кансерва перастала ўжо нават разумець сваіх гарадскіх таварышаў. "Навошта нам патрэбны гэты музей?" - пытаюць. "Навошта нам гэта беларуская культура, навошта мова. Калісь, калі не было гэтай "Салідарнасці" ніхто пра гэта не гаварыў і нікому гэтая беларускасць не была патрэбнай". Дайшло да такой шызафрэніі, што нават Беларускі музей у Гайнаўцы праўдападобна лічаць яны змовай здраднікаў камуністычнай ідэі з самым Валэнсам. Гэтага апошняга лічаць зрэшты дурнем і махляром.

Тое, чаго я наслухаўся ад старых таварышаў пра святароў - праваслаўных і каталіцкіх - немагчыма паўтарыць. Быццам бы яны пра нішто іншае не думаюць, як толькі пра грошы, каханкі і палітычныя ўплывы.

Думаю, што гэта толькі злосць і жаль за эпохай, якая адышла ў нябыт і якую яны дзесяцігоддзямі стваралі і праўдападобна шчыра верылі ў тое, што гэта адзіная і слушная дарога для чалавецтва. Сёння ва ўсім і ва ўсіх бачаць яны ворагаў. Часам нават шкада гэтых няшчасных, разгубленых старэчаў.

**М. ПАНФІЛЮК**

## ЗАТРЫМАЦЬ ЧАС

1 красавіка г.г. у тэлебачанні "Tylko w jedynce" пасол ад Канфедэрацыі незалежнай Польшчы сп. Кшыштаф Круль сказаў, што перамена часу з зімовага на летні гэта выдумка камуністычнай улады. Можа гэта і праўда, але я прапаную, каб цяперашні ўрад затрымаў гадзіннікі на 5 гадзін а парламенту, каб гэта адобрыў. А гэта таму, што ў нас дэмакратыя існуе ўжо 5 гадоў і з кожным годам жыццё працоўных пагоршваецца, тады за кожны год трэба затрымаць час на 1 гадзіну: 5 х 1 = 5, і тады будзе ўжо справядліва.

Для мяне ўсё роўна таму, што калі я ўстану гадзіну раней дык і лягу гадзіну раней, бо фільм у тэлебачанні закончыцца раней; калі рабочы пачне працу гадзіну раней, дык і закончыць гадзіну раней - ён жа працуе 8 гадзін.

Каб было паслядоўна, трэба было б ліквідаваць усё, што выдумала камуністычная ўлада, бо ўсе як выдумкі дрэнныя: трэба было б разбурыць масты і дарогі, бо яны чырвоныя, а на іх месца збудаваць добрыя, белыя. Бяда толькі, што грошай у бюджэце няма, але гэта не перашкода: працоўны люд яшчэ ўзмозе працаваць на дыеты нашых парламентарыяў.

**М. ЛУК'ЯНЮК**

# ГОРАД КЛЯШЧЭЛІ

**XIII. АЙЦЕЦ МІКАЛАЙ КЕЛБАШЭЎСКІ**

*(заканчэнне; пачатак у н-рах 51 і 52 за 1992 г. і 1, 2, 3, 7, 8, 9, 11, 12, 13, 17)*

Плённая душпастырская праца ў трохтысячным кляшчэлеўскім прыходзе вымагала належнай рэлігійнай адукацыі дзяцей. Двум святарам, а асабліва старэнькаму а. Уладзіміру Гарустовічу, было гэта не пад сілу. Духоўныя ўлады рашылі паслаць у Кляшчэлі яшчэ аднаго святара. У 1964 г. назначаецца сюды а. Мікалай Келбашэўскі. Гэты малады святар, які пасля заваршэння Духоўнай акадэміі ў Варшаве быў пасвячаны архіепіскапам Юрыем (Карэніставым), накіроўвае сваю душпастырскую працу ў напрамку рэлігійнай асветы дзяцей у прыходзе. Айцец Мікалай сваёй ахвярнай працай вельмі добра трапляе да дзяцей і знаходзіць пашану ў вачах бацькоў.

Гэтым часам, пасля адзначэння 40-годдзя свайго святарства 1 верасня 1966 г., а. У. Гарустовіч звяртаецца з просьбай перанесці яго ў стан спачынку. На ягонае месца назначаецца а. Мікалай Келбашэўскі. Праводзячы далей асветна-пастырскую працу сярод прыхаджан, а. Мікалай будуе новы прыхадскі дом (стары, пабудаваны яшчэ ў 1847 г. знаходзіўся ў вельмі дрэнным стане).

Новы настаяцель адначасова вядзе старанні аб пабудове і аднаўленні храмаў, разумеючы важнасць гэтага ў духоўнай інтэграцыі прыхадской супольнасці. Так, у сямідзесятых гадах была скончана і абсталявана царкоўка св. Параскевы ў Дабрывадзе; яе пасвячэнне адбылося 27 кастрычніка 1977 г. Вядуцца таксама намаганні аб пабудове новай царквы ў Кузаве.

Першы храм у гэтай вёсцы быў узведзены па ініцыятыве а. Антона Сасноўскага ў 1828 г. Храм гэты згарэў у час І сусветнай вайны і толькі ў 1936 годзе кузаўцам удалося адбудаваць свой храм, афіцыйна... як помнік у памяць маршала Пілсудскага. Пасля чарговага пажару царквы ў час ІІ сусветнай вайны, кузаўцы збудавалі часовую капліцу з дошак. У ІІ палове 70-х гадоў, па ініцыятыве а. Мікалая Келбашэўскага пачынаецца пабудова новай, мураванай царквы.

Складаны быў шлях яе пабудовы. Улады рабілі ўсе магчымыя перашкоды. Аднак жа настаяцель з прыхаджанамі іх пераадолелі і 11 мая 1980 года адзначылі сваё вялікае свята — пасвячэнне храма ў імя св. Варвары. Храм пасвячаў Уладыка Сіман. Пасля ўрачыстасцяў, іерарх у сваім слове падкрэсліў заслугі а. Мікалая: „Вялікую справу зрабіў ты тут, дарагі Бацюшка. Усе складанасці тваё мне вядомы, і заботы, старанні і перажыванні. Але ўсе бачым, храм стаіць, храм пасвяціўся, няхай будзе ён памяткаю добрых учынкаў тваіх, ойча Мікалаю(...)".

Прабуджаная а. Мікалаем

# НЯДЗЕЛЯ ЖАНОК-МІРАНОСІЦ

Трэці пасля велікодны тыдзень прысвячаецца Святым Міраносіцам. Сярод найбліжэйшых вучняў і прыхільнікаў Хрыстовых, якія ад самога пачатку спадарожнічалі Яму, знайшліся жанчыны. Евангелле ўспамінае імёны некаторых з іх. Гэта былі: Марыя Магдаліна, Саламія, Яанна, Марыя Кляопава, Сусанна і іншыя. Некаторыя з іх належалі да знатных сем'яў і прад'яўлялі Хрыстовай грамадзе матэрыяльную падтрымку. Іхная вернасць і адданасць Хрысту перавышалі апостальскую. Яны адважна спадарожнічалі Хрысту на Галгофу і на месца пахавання. Яны таксама першыя ўдастоіліся даведацца пра Хрыстовае Уваскрэсенне.

Евангельскія Міраносіцы — сімвал бескарыснага служэння і адданасці. У гутарковым, царкоўным ужытку „міраносіцы" — гэта тыя пабожныя, працавітыя жанчыны, якія не могуць быць святарамі, дзейна служаць Царкве сваёй працай: праводзяць катэхізацыю, прыбіраюць і ўпрыгожваюць храмы, рыхтуюць свечкі і просфары... Яны, бы гаспадыня ў хаце, выконваюць тыя недаацэньваныя, няўдзячныя працы. Каб пагадзіцца на ролю добраахвотнай служанкі, трэба вельмі любіць, а яны любяць Царкву...

Несумненна прычыны самаахвярнай любові жанчын да Хрыста і Царквы не толькі ў прыроднай якасці душы. Яны таксама заўсёды інстынктыўна адчувалі колькі яны абавязаны Хрысту. Калі ўпершыню прагучэлі словы Нагорнай Пропаведзі: „ Шчаслівыя ўбогія духам, бо іх ёсць Царства Нябеснае, шчаслівыя плачучыя, бо яны ўцешацца, шчаслівыя ціхія, бо яны ўнаследуюць зямлю" — жанчыны ўспрынялі іх як накіраваныя ў першую чаргу да іх. Доўгія стагоддзі, асабліва на Усходзе, жанчына не мела ніякіх правоў. Гэта былі ў пераважнай сваёй масе прыгнечаныя, маўклівыя нявольніцы, на долю якіх выпала знясільваючая праца і падпарадкаванне мужчыну. Старажытны філосаф Сакрат не лічыў жанчыну годнай удзельнічаць у ніякіх вучоных дыспутах. Буда не дазваляў сваім вучням нават размаўляць з жанчынамі. У эпоху Асветніцтва Жан-Жак Русо пісаў, што жанчына не мае ніякіх здольнасцяў. Філосаф Кант лічыў, што жанчына наогул не павінна зашмат ведаць...

Без Хрыста і хрысціянства жанчына засталася б такой жа другараднай, бязвольнай істотай. Можа іхнае становішча крыху змянілася б, але не на лепшае чымсьці маюць цяпер жанчыны-мусульманкі. Хрыстос прынёс жанчыне свабоду, вярнуў першабытную годнасць раўнапраўнай спадарожніцы мужа і годнасць маткі. Ён не пахваляў бяздушнай практыкі разводаў. Насуперак звычаям сваёй эпохі, ахвотна гутарыў з Самаранкай, з Марфай і Марыяй, знакомячы іх з найглыбейшымі тайнамі рэлігіі. Хрыстос зліта ваўся над лёсам наінскай удавы; Ён цярпліва, са спагадай паставіўся да Магдаліны, прабачыў блудніцы і шчыра плакаў над будучым лёсам іерусалімскіх жанчын.

Зыходзячы з Хрыстовай навукі Царква імкнулася распаўсюдзіць прынцыпы раўнапраўя жанчын. Ужо ў першыя дзесяцігоддзі хрысціянскай эры, жанчыны, якім, што праўда, не даручалася святарскіх функцыяў, бывалі дыяканісамі, выконвалі шматлікія функцыі, асабліва ў галіне дабрачыннасці. У XII стагоддзі жанчыны былі выкладчыкамі ва універсітэтах Падуі, Балонні і Салерна.

Эмансіпацыя жанчыны дасягнула свайго апагея ў XX стагоддзі. Гэта ўжо не была эвалюцыя але ўспыхнула сапраўдная рэвалюцыя, якую, як зрэшты кожную рэвалюцыю, характарызавалі крайнасць і перахілы. Жанчына сапраўды дасягнула поўнай эмансіпацыі, але ці напэўна гэта выйшла ёй на карысць? Эмансіпацыя зняла ў жанчын шматлікія абмежаванні, але не адняла абавязкаў. Могучы быць палітыкам, лекарам, касманаўтам жанчына не перастае быць жонкай, маткай, гаспадыняй. Ці гэта добра, калі дзеля „кар'еры" жанчына адмаўляецца ад мацярынства, запускае хату і выхаванне дзяцей? Ці сучасная жанчына, якая працуе, апранаецца, паводзіць сябе гэтак як і мужчына, не здрадзіла свайму прызначэнню? Ці такая жанчына была б натхненнем для Рафаэля, Шэкспіра або Петраркі? Такіх пытанняў узнікае болей, але прыходзіць і адна галоўная рэфлексія: на ўсё ёсць сваё месца і час. „Усё чалавеку можна, але не ўсё карыснае". Існуе адвечны Божы парадак у свеце, які кожнаму вызначае ягонае месца і заданні. Парушаючы гэты парадак атрымоўваем фарс, які штогод разыгрываецца ў Міжнародны жаночы дзень...

Некалі французскі тыднёвік распісаў конкурс на тэму: „Чаму ў турмах больш мужчын чымсьці жанчын?" Адказы былі розныя, уключна з сацыялагічнымі і псіхалагічнымі ды наогул надта мудрагелістымі вывадамі, але выйграў просты адказ: „Таму, што ў храмах больш жанчын чымсьці мужчын". Яны надалей запрацаваныя, абцяжараныя мноствам абавязкаў, недаацэньваныя і крыўджаныя. Яны з прыроднай чуллівасцю кампенсуюць чэрствасць мужчынскіх сэрцаў. Яны горнуцца ў храм, каб прынесці туды свае турботы і ўтоеныя пажаданні, боль мацярынскага сэрца, хваляванні за дзяцей, горыч неkaханай жонкі... Яны зноў, бы Хрыстос ідуць да Хрыста, бо гісторыя, на жаль, паўтараецца.

**а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК**

## СВЯТЫ ЮРЫЙ

Быў ён сынам багатых і богабаязных бацькоў-хрысціян, якія жылі ў Палесціне, праўдападобна ў адным з яе гарадоў — Кападокіі, Лідзіі Палесцінскай або Бейруце. Там таксама нарадзіўся св. Юрый. У юнацтве ўступіў ён у армію і неўзабаве атрымаў званне тысячаначальніка. Прычыніліся да гэтага яго мудрасць, арганізацыйныя здольнасці, адвага, вялікая цялесная сіла і ваяўнічая пастава. Становіцца ён таксама любімцам цэзара Дыяклецыяна.

Аднойчы, знайшоўшыся ў судзе, пачуў ён жудасны прыгавор: пакараць хрысціян смерцю. Гэтае прычынілася да таго, што св. Юрый загарэўся вялікім пачуццём да хрысціянскай веры. Параздаваў ён сваю маёмасць бедным, вызваліў сваіх падданых і пайшоў да Дыяклецыяна. Паставіў ён цэзару закід у вялікай жорсткасці і несправядлівасці і выявіў яму, што сам ён стаў хрысціянінам. Гэтае прызнанне ашарашыла цэзара, які стаў намаўляць свайго любімца пакінуць хрысціянства. Калі гэта не памагло, цэзар аддаў св. Юрыя на мукі. Пачаткова пасадзілі яго ў турму, дзе палажылі Юрыя на спіну, ногі закавалі ў драўляныя кайданы, а на грудзі палажылі вялікі камень. Перанёс ён аднак цярпліва гэтыя і іншыя, больш жорсткія, мукі. Тады Дыяклецыян загадаў адсячы яму галаву, што здзейснілася ў Нікамідыі ў 303 годзе.

Царква назвала св. Юрыя вялікамучанікам, пераможцам (пабеданосцам) і цудатворцам. Гэтыя званні атрымаў ён за мужнае пераношэнне мукаў, за духоўную перамогу над сваімі мучыцелямі, а таксама за цудатворную дапамогу людзям. Святы Юрый ушаноўваецца Царквою як „непахісны мучанік, асвабадзіцель вязняў, ахоўнік жабракоў і той, хто адганяе нячыстыя сілы".



Гэтае свята асабліва ўрачыста адзначаецца вясковым насельніцтвам. У гэты дзень, упершыню пасля зімы выганялі быдла на пашу. Св. Юрый захоўвае яго таксама ад змяіных укусаў.

Дзень св. Юрыя адзначаецца як прыхадское свята ў Юраўлянах, Вярхлессі і Семяноўцы. Святкуюць гэты дзень таксама вернікі ў Рыбалах, Новаберазове і Кнарыдах (прыход Боцькі), дзе знаходзіцца часоўня св. Юрыя. Адзначаюць гэтае свята і ў Патоцы ў Тапалянскім прыходзе. Была там калісьці прыгожая, мураваная царква з пяццю купаламі, якую знішчылі немцы ў I сусветную вайну. Ва ўрачыстай багаслужбе жыхары Патокі ўдзельнічаюць у Пяценцы.

Памяць св. Юрыя ўшаноўваем 6 мая (23 красавіка па ст. стылю).

**С. Н.**

---

ініцыятыва прыхаджан, дае плён таксама ў Вольцы-Тэрахоўскай. На пачатку 80-х гадоў яе жыхары рашаюць пабудаваць уласны храм. Амаль напрыканцы яго пабудовы духоўныя ўлады адкрываюць самастойны прыход у Кузаве. Пасвячоная 8 жніўня 1984 г. у імя св. Анны царква ў Вольцы ўваходзіць у склад новаствораната прыхода.

Спрыяльны адкрыццю новых прыходаў час дае плён яшчэ раз. У 1986 годзе адкрываецца прыход пры могільнікавай царкве ў Чаромсе. У яго склад уваходзяць Чаромха-вёска ды Чаромха-станцыя (тут неўзабаве пачынаецца будаваць новы храм, які ўжо амаль скончаны).

Так вось завяршыўся амаль 200-гадовы працэс фарміравання новых прыхадскіх супольнасцей, на базе аднаго кляшчэлеўскага прыхода. Пачалося гэта ў 1977 г. пабудовай царквы ў Чаромсе, пасля была пабудова царквы ў Кузаве. А ўсё гэта падмацоўвалася адданай душпастырскай працай паасобных святароў, у тым ліку і цяперашняга, а. Мікалая Келбашэўскага. Ягоную асобу несумненна можна назваць годным паслядоўнікам а. Антона Сасноўскага, знатнейшага з ліку кляшчелеўскіх святароў.

Айцец Мікалай Келбашэўскі карыстаецца вялікай пашанай сярод прыхаджан ды ўсяго падляшскага духавенства. Перш за ўсё вядомы ён, як дасканалы прапаведнік, які вышэйшыя багаслоўскія пытанні ўмее пераказаць вельмі трапнай, сугестыўнай мовай, не абмінаючы пры гэтым балючых пытанняў сучаснасці: несумленнасці, ненармальнасці, п'янства, абортаў, неталерантнасці і інш.

У інтэр'вю, дададзеным кляшчелеўскай газеце "Co słychać w gminie" (н-р 5-6/1992) а. Мікалай выказаўся між іншым пра справу мяшаных сужонстваў: „Справа мяшаных сужонстваў з'яўляецца ў пэўнай ступені праблемаю ў нашай рэальнай сітуацыі. Не ёсць яна належна зразуметая грамадствам. Пагадненне паміж Праваслаўнай царквою і Рымска-каталіцкім касцёлам рэгулюе гэтыя справы, хаця здараюцца тут неўласцівыя тэндэнцыі, якія ўнушаюць змену веравызнання. З прыкрасцю мушу сцвердзіць, што такія ўнушэнні ў вялікай ступені выходзяць ад Рымска-каталіцкага касцёла (...). Справа мяшаных сужонстваў складаная і немагчыма паясніць яе ў некалькіх сказах".

Айцец Мікалай Келбашэўскі запрашае наведаць свой прыход, асабліва ў час прыхадскіх святаў: св. Мікалая (22 мая), Успення Найсвяцейшай Багародзіцы (28 жніўня) ды св. Юрыя (6 мая), калі Хрэсны ход падаецца на „цэрквіска" Юр'еўскага храма.



*Настаяцель Кляшчэлеўскага прыхода а. прат. Мікалай Келбашэўскі.*

* * *

І так, даходзячы да сённяшняга дня завяршылі мы падарожжа па гісторыі Кляшчэль. Гэты, адзін са знатнейшых падляшскіх гарадоў XVI ст., цяпер мала чым адрозніваецца ад паўсонных мястэчак: Орлі, Нарвы, Крынак... Можа толькі пэўнае ўсведамленне жыхарамі сваёй традыцыі прыдаюць ім спецыфікі. Для праваслаўных Кляшчэлі — месца асаблівае. А гэта па прычыне іконы св. Мікалая Цудатворца.

У сваім нарысе закранулі мы, напэўна, не ўсе пытанні, звязаныя з гісторыяй Кляшчэль і Праваслаўнай царквы ў іх. Каб тое ўсё дакладана высветліць, спатрэбілася б больш месца.

Спадзяемся на водгукі чытачоў і заўвагі наконт публікацыі. З задавальненнем сустрэнем новыя факты, матэрыялы, успаміны ці фотаздымкі звязаныя з кляшчелеўскай гісторыяй. Гэта, несумненна, пасадзейнічае больш шырокаму распрацаванню мінулага Кляшчэль і магчыма асобнаму выданню.

**а. РЫГОР САСНА,**
**МІКОЛА САХАРЭВІЧ**



# НАШЫ КАРАНІ

## LI. СВАТАННЕ ВЯЛІКІХ СПАДЗЯВАННЯЎ

Як лічаць гісторыкі, кароль польскі і вялікі князь літоўскі Казімір Ягелончык здаўна меркаваў бліжэй парадніцца з ваяўнічым Вітаўтавым праўнукам, вялікім князем маскоўскім Іванам Васілевічам. А нагода да таго была і то не абы-якая, бо і аднаго і другога Бог шчодра паблаславіў дзеткамі, і сынамі, і дочкамі. Яшчэ пры жыцці караля было вырашана, што адзін з каралевічаў ажэніцца з маскоўскай князёўнай і зойме вялікакняскі пасад у Вільні. Але нарастаючае напружанне паміж Масквою і Вільняй і ўсё часцейшыя сутычкі на паграніччы ў апошнія гады Казіміравага панавання перашкодзілі гэтаму.

Стаўшы вялікім князем, Аляксандр Ягелончык і яго двор адразу пачалі імкнуцца да перамоваў пра мірнае пагадненне з Масквою і адначасна акружнымі дарогамі, вельмі далікатна, каб не сапсаваць справы, сталі перасылацца з Іванавымі людзьмі па справе жаніцьбы вялікага князя літоўскага з вялікай князёўнай маскоўскай. Перамовы былі надта асцярожныя і цяжкія, цягнуліся аж тры гады. Хоць граніца палала, але ні адзін, ні другі бок не спынялі перамоваў. Таму што з жаніцьбою князя Аляксандра, каталіка, з праваслаўнай князёўнай Галенай абедзве дзяржавы спалучалі вялікія надзеі на сталы мір паміж дзвюма здаўна варагуючымі краінамі і на ўзаемнае зразуменне і набліжэнне праваслаўнае Царквы і каталіцкага Касцёла. Аднак па-рознаму думалі і зусім чаго іншага спадзяваліся кожны з пануючых двароў. Урад Вялікага княства Літоўска-Беларускага меркаваў, што разам з прыходам у Вільню вялікай князёўны маскоўскай будзе заключаны не толькі выгадны мір, але і будуць вернуты захопленыя Масквою пагранічныя землі, удасца схіліць вялікую княгіню перайсці з праваслаўя ў каталіцызм і такім чынам лягчэй будзе перавесці ва унію ўсё праваслаўнае насельніцтва беларускіх і ўкраінскіх зямель. Да таго Апостальская сталіца спадзявалася, што дзякуючы гэтаму шлюбу ўзнікне нагода навярнуць у каталіцызм Вялікае княства Маскоўскае. У тым жа часе князь маскоўскі і ягоныя прыбліжаныя імкнуліся гэтым жа шлюбам замацаваць за Масквою здабытыя землі. Не сумняваючыся ў стойкасці ў веры праваслаўнай Галены, разлічвалі, што ў яе асобе праваслаўныя ў Аляксандравай дзяржаве атрымаюць дзейсную духовую і палітычную падтрымку.

Бацькі князёўны Галены вельмі старанна падрыхтавалі дачку да гэтай надзвычай адказнай місіі. Яшчэ перад шлюбам Іван Васілевіч патрабаваў ад Аляксандра Ягелончыка пісьмовага абавязацельства: "*Нам яго дачкі не прымушаць да рымскае веры, яна захоўвае сваю грэцкую веру*". Аляксандр пад націскам каталіцкіх іерархаў і свайго акружэння спрабаваў змяніць гэтае абавязацельства так, што калі Галена "*захоча прыняць рымскае веравызнанне, то яе воля*". Князь маскоўскі катэгарычна запратэставаў і пагражаў сарваць шлюб. У таямніцы ад каталіцкай іерархіі і свайго двара Аляксандр усё ж даў Івану такое абавязацельства, якога той патрабаваў, замацаваўшы яго ўласнаручным подпісам і адпаведнымі вялікакняскімі пячацямі.

Рашаючыя размовы аб шлюбе папярэдзіла заключэнне ў 1494 г. міру паміж Масквою і Вільняй, паводле якога да Маскоўскага княства адышоў значны абшар Аляксандравых уладанняў. "*А закончыўшы шчасліва дамоўленасць аб міры, тыя ж паслы* (князя Аляксандра - МГ) *перадалі падарункі князю маскоўскаму і самой княгіні і дачцэ іхняй Галене ад вялікага князя Аляксандра літоўскага вельмі дарагія*, - чытаем у "Хроніцы літоўскай і жамойцкай". - *За гэтыя дары, устаўшы з трону свайго, дзякаваў, асабліва ж панна праз баярына і паплечніка царскага дзякавала. А калі іх частаваў сам цар і вялікі князь маскоўскі за сталом сваім, прыгадаўшы падарункі, узняў здравіцу за вялікага князя літоўскага Аляксандра і, выпіўшы, мовіў: "Чым жа тыя падарункі маглі б аддаціся?" Устаўшы, паслы пакланіліся нізка цару і сказалі: "Тыя падарункі жадаюць ад вашай царскай вялікасці прыязні да вялікага нашага князя, каралевіча польскага Аляксандра". Мовіў* (цар): "*Якой? Не адмоўлю*". *А паслы, другі раз пакланіўшыся, сказалі: "Наш вялікі князь не мае бацькі і просіць, каб твая царская міласць прыняў яго і стаў яму другім бацькам, даўшы дочку сваю Галену за жонку, якую ён улюбіў*".

Князёўна Галена была незвычайнай красы паненкай. Як падае тая ж "Хроніка", калі "*яе ўбачылі паслы* (Аляксандравы), *дык зразумелі, што гэта анёл у чалавечым целе і, зачараваныя яе прыгажосцю, сталі, як укопаныя. А потым упалі паненцы да ног, просячы, каб князя і пана іх у ласцы сваёй захавала, а яна заплакала*". Не належаў да брыдкіх і князь Аляксандр. У той жа "Хроніцы" знаходзім: "*А быў той вялікі князь літоўскі Аляксандр вельмі прыгожы, белага твару з румянымі шчокамі, чарнавокі, вусікі толькі што засеяліся*".

У студзені 1495 г. князёўна Галена выехала з Масквы ў Вільню. Бацькі ёй напомнілі, каб яна ва ўсіх гарадах, праз якія будзе праязджаць, абавязкова наведала саборныя цэрквы і ўдзельнічала ў набажэнствах. Галена старанна выконвала гэты наказ. І тут аддайма голас зноў "Хроніцы літоўскай і жамойцкай", якая захавала самае падрабязнае і красачнае апісанне гэтага падарожжа: "*З царэўнаю некалькі тысяч вазоў скарбовых з гербамі выправілі ў Літву з каштоўнасцямі, і сам цар і царыца мілую дочку сваю правёўшы, цалавалі і блаславілі, і войска 2000 даўшы, з баярынам найстарэйшым аж у Літву і, прыдаўшы двох епіскапаў, загадаў* (бацька) *праводзіць. А калі паслы ганца свайго да князя літоўскага паслалі, паведамляючы, што ўсё належна справілі і царэўна едзе, зараз жа на граніцы літоўскае войска... спатыкала яе палкамі. А калі ўжо ў Літоўскую дзяржаву ўехалі, усюды па гарадах, у якіх царэўна затрымоўвалася на абед або на начлег, стралялі з гарматаў. І калі набліжалася да Вільні, войска літоўскае ва ўрачыстых уборах выстраілася, а калі ўжо каля Вільні была, выехалі насустрач княжычы і юныя сыны паноў літоўскіх - усіх каля трох ці чатырох тысяч. Панне паставілі царскі шацёр з дванаццацю пазалочанымі вярхамі. Ёй усе княжычы і панскія сыны кланяліся. Маскоўцы ж таксама ўсё, а было іх 2000, у золата, сабалі, дарагія шаты прыбраныя стаялі воддаль, на тылах, як бы месяцам, на конях у адлегласці на стрэл з лука, шацёр ахіналі. А потым і сам вялікі князь літоўскі Аляксандр з дваром сваім на пяцістах коней, пад'ехаўшы на стрэл з луку, загадаў сваім стаць на конях, сам жа пешшу з некалькімі баярамі і княжычамі сваімі крочыў да царэўны. Яна з шатра свайго выйшла з баярамі і епіскапамі сваімі і ў палове дарогі сустрэла яго. А затым, любоўна прывітаўшыся* (іншыя крыніцы падаюць, што Аляксандр чула абняў Галену, прытуліў да сябе і горача пацалаваў яе), *накіраваліся ў яе шацёр. І зараз жа ўсе Аляксандравы людзі крыкнулі: "Алілуя, алілуя Богу Усявышняму, за такі вялікі дар Яго, што такую панну манарха маскоўскага даў нам мець паняю. Няхай жыве вялікі князь і пан наш многія леты з ёю нам пануючы*" (Відаць, спявалі "Многія леты" - МГ). *Пасля гэтага далі агню з мушкетаў і раз'ехаліся. Князь жа з княжычамі пасля снедання ў шатры царэўны накіраваліся ў Вільню, урачыста праводзячы панну, а яна ехала ў залатой бацькаўскай карэце з двума епіскапамі. А калі ўехала ў Вільню, увесь народ выйшаў ёй насустрач, узаемна сябе віншуючы з такім шчасцем: кідалі кветкі, розныя зёлы і аж чатыры гадзіны на абодвух замках і на гарадскім вале стралялі з гармат. Далі ёй станцыю ў замку Вышнім з усімі яе баярамі і епіскапамі, а князь Аляксандр у Ніжнім замку пасяліўся*".

Маладыя з першага дня пакахалі адно другое і аж да смерці Аляксандра жылі ва ўзаемнай шчырай любові і згодзе. Аднак жыццё не паскупілася ім на безліч прыкрасцяў, варажнечы і пакутаў, але іхняя ўзаемная ўлюбёнасць усё перамагала. На жаль, гэтае праўдзівае шчасце трывала ўсяго толькі 11 гадоў, бо ў 1506 г. кароль польскі і вялікі князь літоўскі Аляксандр памёр. Галена пражыла ўдавою яшчэ 7 гадоў, у асноўным на замку ў Бельску-Падляшскім. Існуюць падазрэнні, што яе смерць наступіла ў Браславе ад зададзенай атруты.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

## ГУДЗЕВІЧЫ — КРЫНІЦА БЕЛАРУСКАСЦІ

*(заканчэнне; пачатак у папярэднім нумары)*

Шырока прадстаўлена ў музеі народная творчасць ды ўся культура народа. Сцены ўпрыгожваюць саматканыя дываны.

У раздзеле „Каменны век" паказаны вырабы з косці, каменя і крэменю эпохі неаліту. „Кавальства" дэманструе прадметы з жалеза, медзі і сталі. „Ганчарства" прадстаўленае збанкамі, кафляй і чарапіцай.

Асабліва прыцягваюць наведвальнікаў маляўніча вышываныя ручнікі, саматканыя паясы з XIX і XX стагоддзяў, вышываныя і мярэжкаваныя кашулі, саматканыя хусткі-акрыванкі, гальштукі з незвычайна прыгожымі ўзорамі. „Ткацтва і вышыўкі" папаўняе яшчэ іншы раздзел — „Гудзевіцкі народны строй". Прываблівае зрок мужчынская і жаночая вопратка, якую насілі тут у трыццатых гадах.

Раздзелы „Вырабы з драўніны" і „Вырабы з саломы" паказваюць прадметы земляробчай працы, разьбу, розныя каробкі, кашы, карзіны, саламяныя капелюшы і іншыя шэдэўры народнай творчасці.

Дзякуючы дапамозе і глыбокім батанічным ведам пісьменніцы Зоські Верас была створана дужа цікавая частка музея — „Зёлкі". Тут сабраны і апісаны многія расліны, што сустракаюцца ў Прынямонні.

У музеі ёсць асобная зала, дзе экспануюцца творы выяўленчага мастацтва і скульптуры на літаратурныя і гістарычныя тэмы. Найбольш цікавыя — гэта партрэты Максіма Багдановіча, Міколы Гусоўскага, Францішка Скарыны, Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы, Цёткі, скульптуры Міхася Арла, Браніслава Тарашкевіча ды іншых.

Своеасаблівым помнікам этнаграфіі сталася сялянская хата з мінулага стагоддзя, прывезена ў Гудзевічы з адной з суседніх вёсак. У гэтай жа хаце вучні праводзяць сустрэчы і іншыя пазакласныя мерапрыемствы.

Пра Гудзевіцкі літаратурна-краязнаўчы музей можна смела гаварыць як пра адзін з цікавейшых у Рэспубліцы Беларусь. Сюды звяртаюцца вучоныя, даследчыкі, пісьменнікі, супрацоўнікі інстытутаў, Акадэміі навук, рэдакцый.

Музей згуртаваў вакол сябе шматлікіх энтузіястаў, выпускнікоў і сённяшніх вучняў мясцовай школы, якія любяць літаратуру, гісторыю, этнаграфію роднага краю. Сярод іх пачэснае першынство належыцца заснавальніку музея Алесю Белакозу, яшчэ нядаўняму настаўніку беларускай мовы і літаратуры ў Гудзевіцкай школе, заслужанаму дзеячу культуры Беларусі, сёння пенсіянеру. У кастрычніку 1988 года „Настаўніцкая газета" пра спадара Белакоза пісала: „*Сам патрыёт і вучыць дзяцей патрыятызму, сам гуманіст і выхоўвае іх, сваіх вучняў, гуманістамі, сам інтэлігент і іх вучыць інтэлігенцыі, сам вялікі працаўнік і дзецям перадае любоў да працы. Верыць у духоўныя, інтэлектуальныя сілы нават самых слабенькіх і недысцыплінаваных вучняў. Асоба сціплая і ў той жа час яркая, цікавая дарослым і дзецям. Ён смела ідзе на канфлікты, каб дасягнуць вялікай мэты. У яго гутарках з людзьмі ёсць усё: і сур'ёзнае, і патрабавальнае, і мяккае, і жартоўнае. І заўсёды — неабходнае*".

Бацькі А. Белакоза незадоўга да яго нараджэння прыбылі на Мастоўшчыну з ваколіц Гарадка. Нас, настаўнікаў з Беласточчыны прасіў ён, каб у родную мясцовасць бацькоў, блізкую таксама яго сэрцу, перадалі мы паэтычныя кніжкі „Лірнік" „нашаніўца" М. Арла (Сцяпана Пятэльскага), ураджэнца Гарадка. Гэтым шляхам на доўгія дзесяцігоддзі забытая паэзія нашага суайчынніка трапіла ў рукі маладых навучэнцаў беларускай мовы ў Гарадоцкай пачатковай школе.

А гэта ўсё значыць, што нельга нам ужо не ведаць пра славутых сыноў нашага краю, што імі нам трэба ганарыцца.

**ЮРЫ БАЕНА**




My, niżej podpisani mieszkańcy wsi Rogacze, Mikulicze, Miedwieżyki, Gołubowszczyzna, Lewosze, Borowiki (gmina Milejczyce), kategorycznie żądamy przywrócenia 8-klasowej Szkoły Podstawowej w Rogaczach.

Szkoła w Rogaczach istniała do końca ubiegłego roku szkolnego. Dobrze spełniała swoje funkcje. Poprzednia PRL-owska władza dbała o nią. Obecna, pomimo naszego oporu, doprowadziła do jej likwidacji. Do Szkoły Podstawowej w Rogaczach dochodziły dzieci z pięciu wsi. Po kilku godzinach zajęć wracały do domu. Obecnie sytuacja uległa tragicznemu pogorszeniu. Dzieci z domów wychodzą bardzo wcześnie, bo autobus szkolny z Milejczyc przyjeżdża do Rogacz o godz. 7.30. 32 dzieci czeka na autobus na dworze (przy świetlicy strażackiej) i to bez względu na pogodę.

Dlaczego nie zorganizowano poczekalni w naszej pięknej szkole (stoi pusta bez żadnej opieki i niszczeje)? Dlaczego nie zorganizowano żadnej opieki nad dziećmi? Przecież może dojść do wypadku. Dzieci czekając na dworze często przeziębiają się i chorują. Po zajęciach szkolnych są dowożone do Rogacz o godzinie 15-tej. Póki dojdą do domu (niektóre mają ponad 3 km), jest już bardzo późno. Starsze dzieci jeszcze to wytrzymują, ale co przeżywają maluchy trudno sobie wyobrazić. Wójt Gminy na zebraniu z rodzicami obiecywał, że z dowozem wszystko będzie grało. Dzieci miały być wożone do Gołubowszczyzny (dzieci z Gołubowszczyzny, Lewosz i Borowik stamtąd miałyby blisko do domu). Ostatnio podjął decyzję, aby do Gołubowszczyzny nie jeździć i pomimo interwencji rodziców nie chce jej zmienić. Motywuje, że dowóz drogo go kosztuje, a jeśli rodzice będą szumieć, to w ogóle nie będzie woził.

Nie rozumiemy takiej sytuacji. Dlaczego znęcają się nad naszymi dziećmi?! Czyżby dlatego, że są Białorusinami?! Dlaczego w ogóle nasza szkoła została zlikwidowana? Żadne przesłanki do tego nie upoważniały (piękna szkoła, dobre wyniki nauczania). A może były od góry wytyczne, by zlikwidować tę szkołę, bo mieszkają tu Białorusini? Dziecko jest największym dobrem (tak obecnie wszyscy głoszą). Czyżby dziecko białoruskie było niższej kategorii? Dlaczego za naszymi dziećmi nie ujmie się Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, Białoruskie Zjednoczenie Demokratyczne, czy wreszcie "Niwa"? Dlaczego Wójt Gminy w Milejczycach dopuścił do likwidacji szkoły, przecież gdyby trochę pomógł finansowo (idzie o środki na zakup węgla), szkoła byłaby utrzymana, a teraz znęca się nad naszymi dziećmi, bo tak można nazwać sprawy związane z dowozem. W związku z powyższym żądamy przyjazdu Kuratora, sprawdzenie tych spraw na miejscu i podjęcie decyzji o przywrócenie szkoły w Rogaczach. Na razie prosimy. Jeśli nasza prośba nie zostanie spełniona, przystąpimy do akcji protestacyjnej, nie będziemy dzieci wysyłać do szkoły.

Prosimy rownież prasę, białoruskie partie i redakcję "Niwy" o zainteresowanie się naszą sprawą.

*(podpisy 25 mieszkańców)*

**Ад рэдакцыі:** Інфармуем аўтараў ліста, што мы зацікавіліся апісанай праблемай і неўзабаве наш журналіст прыедзе ў Рагачы, каб пазнаёміцца са справай на месцы.

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 400

ЯН ЧЫКВІН

## ПАЭТ І МУЗА

Калі, забіты ў кут, ад года я усё пісаў адзін радок,
Летуценячы здабыць той лаўравы вянок,
Прыйшла і села муза. Села пад іконай.
І глянуўшы, як у ваду, ў мае паперы,
Адкрыла вокны, адчыніла дзверы,
І прахаладзь хлынула вясновая,
І з яе спакойна-светлага аблічча
Капнула слязіна.

„Ці ўбачыць?.. Ці пакліча?..
Паблагаславіць мо мяне?.. Ці папракне?
На вуха тайніцу шапне
Ці скрутак спісаных законаў
Абыякава уручыць мне?.."

Прамовіла:
„О, мілы Божа, як жа ты спанеў
І непрактычны стаў. І хоць цяшы цябе, хоць рэж,
Нішто табе сям'я і дом, і мае раны...
Ты ў іншай, хлопча, закаханы
І ўжо не пазнаеш мяне.
Глядзіш — і не бачыш,
Што маеш і траціш.
А з замужняй, той мурзаю, ні дня не пражывеш,
І ночны час-не час без ласк жывой кабеціны...
Праўдзівых муз цяпер няма ж на нашым подлым свецені!"

## ПАЦАЛУНАК

Як пляснуў тройчы пацалунак на пероне,
„Едзь абы-куды!" — прашамкаў з рэзігнацыяй
Мужык павешаны на слупе-клёне.
І, засмактаўшы мой даношаны касцюм і цела
У сваё дрыготкае, здранцвелае нутро,
Адзін цягнік, відаць, найгоршы, нетутэйшы,
Пацягнуў — рук разрываючы падковы —
Сваім імпэтам ў найчарнейшую дарогу,
Па якой, асуджаных на несціханы перастук калёс,
Вязуць-адвозяць-возяць у непамяць, ў сена-гора,
У іншы бок жыцця, дзе клеіцца і моршчыцца сутонне,
Дзе поранкаў спаволеных няма і радасці ад захаду нябёс,
А ёсць адна загубленая ў космасах прастора,
Нібы навечна куплены білет — той пацалунак на пероне.

## ЧАЛАВЕК ДАЖДЖУ

Дождж ідзе на маю галаву пахмурна-навесны,
Дождж-напамін пра хуткаплыннасць светлаблакітнай песні.

Дождж ідзе. На маю галаву. Дождж серабрыставалосы.
І сплывае, як ласка і глыбейшыя сэнсы маўклівых нябёсаў.

Дождж ідзе і хвалюецца сам і мяне ён хвалюе да плачу,
Шапаціць над маёй галавой, як дакор мілагучны маці.

Ідзе дождж як не дождж — на маю галаву сыплецца шкліва
Нараканняў далёкіх і блізкіх людзей і праклён іх шчаслівы.

На маю галаву дождж ідзе. Дзень у дзень, дзе ні дзенься,
І плёхае следам па мокрых слізгах майго неадбежнага ценю.

Дождж празрыстаю песняй з вільготных аблокаў ідзе...
І я, родным ахутан макроццем, іду па плыткай, звонкай вадзе.

ЛЕАПОЛЬД СТАФ

## Я ВЫЙШАЎ ШУКАЦЬ...

Я выйшаў шукаць Цябе досвіткам і ў трывозе.
Не знаходзячы, думаў, што йшоў я дарогай ізгоя.
І ўбачыў нарэшце, калі адвярнуўся ў дарозе,
Бо Ты праз жыццё ўсё следам крочыў за мною.

А вандраваў я дзень цэлы пад неба цяжарам.
У холадзе поўдзень мінуў свой, каб вось у гадзіне апошняй,
Табою палаць, на змярканні маім, вогненным жарам,
Як рэчка пры захадзе сонца крываваю пожняй.

Пераклад Яна Чыквіна

МІРА ЛУКША

* * *

*Анатолю Сысу*

выбраўся ты на вайну без вяртання
пабег цераз поле вярбою хрышчонае
слязьмі пражагнанае потам крывёю
напіўся узгрэты халоднай вадзіцы
з крыніцы пахмельнай над ярам бяздонным
аслеплы ад бляску што выплыў зміж рэбраў
і выліўся ў белае сонца над краем

і здароўю зашкодзіў сказалі вандроўцы
глухі што кульгавага вёў нёс кульга сляпога
а ты анямелы аслеплены голы
хацеў яшчэ скрыць сваю нагасць і ляк і знямогу

а няма ўжо вяртання з вайны без вяртання
для таго каму Бог дазволіў быць богам

ЗОСЯ САЧКО

* * *

вэрнулісь пташкі

буслы нашлі своїэ гніэзда

по румну пахотніэ

в каждум цьвіткові

красуюцця

— нэ знают які цьвітэ на пусто

тут оно жыті

— сэбэ на сэбэ міняю



*Рыс. Міколы Давідзюка, 1985 г.*

## ЯЦАК ПАНКЕВІЧ

*Каторагасьці дня пазваніў мне з прыбеластоцкай Грабаўкі Яцак Панкевіч. Я адшукаў яго ў гібеючым бацькавым доме, у які прыехаў ён адпачыць, і мы выйшлі ў жніўную далеч, пагаварыць пра літаратуру. І хоць равеснікі з нас, была гэта даволі непаразумелая размова; не бачыліся, вось, праз эпоху цэлую. Некалі цікавіўся ён перакладаннем з майго, калі я толькі браўся ўсур'ёз ісці ў літаратуру. Цяпер жа тое нарэшце з ім: з'явілася на свет белы яго першая кніжка „Nos pod cios". Узяў я з яе тры рэчы, якія — на маю думку і адчуванне — добра наблізяць нашаму чытачу гэтага польскага пісьменніка супольнай яму і нам зямлі.*

САКРАТ ЯНОВІЧ

ЯЦАК ПАНКЕВІЧ

## НЕЗАБЫЎНАЕ

У халадэчу шугаў сыры вятрыска. Убіўся я ў закутак кустоў на лузе. Улёгся ў сухую ды паірдзелую траву, у якой добра мне было і цяпло.

Аднекуль ззаду з'явіўся стары чалавек. Знянацку, амаль нячутна. Я, аднак, не спужаўся.

— Не ляжы так, бо памрэш! — сказаў. І не адышоўся, пакуль я не ўстаў.

Я не паспеў хоць крыху пагрэцца перад тым, як пачаць ісці следам у свет дарослых. Ад малога гэта моцна памятаю.

## ПАДАБЕНСТВЫ

З бедным не гавары пра грошы, а з неразвітым чалавекам — пра тое, што панянце трэба мець.

Нягожа будзе.

Абразіш іх, калі толькі ўсяго нагадаеш, чаго ім не хапае.

Збядняйся пад беднага, бо і ў самога сябе пашукаўшы беднасці тае досыць назнаходзіцца, а неразвітаму — пакажы сваю схільнасць спрошчана думаць.

І калі ўжо так раўнёю паміж сабою паробіцеся — куды працэй усенька адбудзецца. Супольны напрамак ды энтузіязм дзеля справы знойдуцца. І не падумаецца вам нават, як розныя з вас чалавекі.

Ды і пра адну і тую ж балеснасць, — на якую глядзіце цяпер з абодвух бакоў.

## НЕЗАЛЕЖНАЯ ЛОГІКА

У які ж гэта трэба блок, у дом які, каб пад'езд 7 „Б" адшукаць ды на дзевяты паверх узысці, дзе дзверы з някідкім асвятленнем. Там, у казённай кватэрцы, сядзіць ён каля адзінюткага вакна ды вершы вяршыць. Нікому яны непатрэбныя, аніхто іх у яго не купіў і не купіць, і не прачытае. Нікога ён не выратуе.

Сам сабе бяду наганяе і ганьбіць самога сябе, сарамаціць.

— Ну і што я павінен усім сказаць? І ў чым можа быць мая помач?

Пераклаў С. Яновіч

З народнай абраднасці

# ЮРЫЙ

Свята св. Георгія Пераможцы, ці св. Юрыя, памяць якога ўшаноўваюць 6 мая, адносіцца да ліку тых свят, якія наш народ сустракаў з асаблівай пашанай, наладжваў з гэтай нагоды святкаванні, стварыў шмат звычаяў. Св. Юрый лічыцца ў сялян заступнікам жывёлы, асабліва коней. У ноч перад Юрыем неабходна выводзіць коней у поле: гавораць, што ў гэты час з'яўляецца першая раса, якая вельмі карысная для жывёлы, асабліва для коней. У песні спяваецца:

*Святы Юрый, божы ключнік,*
*Вазьмі ключы, ідзі ў стайню,*
*Вазьмі каня варанога,*
*Ідзі ў поле ў чыстае,*
*Адамкні зямлю, пусці расу.*

Гаспадар з усёй сваёй сям'ёй старанна моліцца дома перад іконай св. Георгія, каб гэты святы захаваў у цэласці яго коней. Пасля малітвы гаспадар бярэ столькі яек, колькі ў яго коней; тры разы абыходзіць вакол хлява, дзе стаяць коні, пасля кладзе іх пад парогам. Перахрысціўшыся тры разы, гаспадар адчыняе хлеў, уваходзіць туды, прымаўляючы:

*Прыйшла Юр'ева раса,*
*не дам вам аўса.*

Тры разы гладзіць іх рукой па ўсёй спіне, надзявае аброць, выводзіць з хлява і стараецца сам правай нагой стаць на парог хлява, дзе пакладзены яйкі: там знаходзіцца д'ябал, які ўсяляк імкнецца пашкодзіць коням і можа зрабіць гэта толькі напярэдадні Юр'евага дня. Стаць правай нагой на парог хлява — значыць зусім абяссіліць д'ябла, зрабіць яго для сябе бясшкодным.

Яшчэ за тыдзень да свята маладыя дзяўчаты абыходзяць сваю і суседнія вёскі з просьбай даць ім, хто што можа, на каравай. Даюць звычайна пшанічную муку ці пшаніцу, яйкі, масла, сыр, каўбасу. Усе сабраныя прадукты прыносяцца дамоў і складваюцца ў таго гаспадара, у хаце якога прызначана „спраўляць Юр'я". Звычайна выбіраюць хату, у якой ёсць дзяўчынанявеста. Напярэдадні свята мыюць сталы і лавы, вымятаюць хату і двор, высыпаюць усюды жоўтым пяском; смажаць, пякуць, вараць. Галоўная ўвага звяртаецца на каравай. Калі ўсё гатова, каравай упрыгожваюць зелянню, стужкамі. У дзень свята ўся моладзь адпраўляецца ў царкву, а па заканчэнні богаслужэння збіраецца ў хаце, якую выбралі для святкавання. Сюды запрашаюцца музыкі, збіраецца шмат людзей. Потым увесь гурт выходзіць з караваем у поле. У іншых мясцінах сам гаспадар нёс каравай і абыходзіць усё сваё поле. Прыйшоўшы да апошняй палоскі, дзе расце жыта, гаспадар дастае каравай, кладзе яго ў жыта і параўноўвае вышыню жыта з караваем. Калі каравай схаваецца ў жыце, то жыта ў гэтым годзе будзе добрае. Прачытаўшы тут жа малітву, гаспадар адпраўляецца дадому. Потым ён разразае каравай на кавалкі і частуе ўсіх членаў сям'і. Бывае таксама, што гаспадары з усёй сям'ёй адпраўляюцца ў абыход сваіх палёў. Акрамя каравая яны бяруць з сабой гарэлку, каўбасы, яйкі, косці ад той ялавічыны, якую асвячалі на свята Вялікадня. Косці захоўваюцца ці ў натуральным выглядзе, ці ў выглядзе попелу пасля таго, як іх спаляць. Прыйшоўшы на поле, гаспадары часам качаюцца самі ў жыце, каб акрапіцца „Юр'евай расой", а пасля качаюць свае каравай. Абыходзяць свае нівы з песнямі: „Юрый, уставай рана, адмыкай зямлю". На мяжы поля віншуюць сваю ніву:

*Добры дзень, ніва святая, віншуем з хлебам і соллю і святым Юр'ем, каб Бог і Юрый пацешылі надвор'ем, урайджаем і здароўем.*

Гаспадару жадаюць:

*Піва рабіць,*
*Сына жаніць,*
*Гарэлку гнаць,*
*Дочку замуж даць.*

Касцямі, калі яны ў натуральным выглядзе, абтыкаюць тыя месцы, на якіх расце асака. Варта заўважыць, што свянцоныя косці хавалі яшчэ і ў стрэхі хат і хляvoў, а хлеб і соль, загорнутыя ў анучку, вешалі пад страхой, большай часткай над дзвярыма хат. Рабілася гэта для таго, каб зберагчы свае будынкі ад маланкі. З гэтай жа мэтай у час навальніцы вывешвалі яшчэ на дзвярах абрус, якім засцілалі стол у Вялікдзень, выстаўлялі ў дзвярах лапату, на якой саджалі ў печ хлеб, і надымлівалі ў хаце асвячонымі травамі. Свянцоныя хлеб і соль служылі таксама лякарствам ад розных хвароб і ратавалі ад нашэсця ведзьмаў у купальскую ноч.

У некаторых месцах маладзіца накрывае ўсходы жыта палатном. Дзяўчаты ходзяць з караваем па вёсцы, каб да наступнага года выйсці замуж. Па надвор'і ў дзень Юрыя гаспадары варожаць аб поспеху ў гаспадарцы. Калі на Юрыя ідзе дождж, то будзе расці вялікае жыта. Калі дождж толькі кропіць, то будуць увесь год каровы даіцца. Калі будзе раса, то будзе ў дастатку коням аўса.

**АЛЬЖБЕТА ТАМЧУК**



# ЯШЧЭ РАЗ ПРА КАМП'ЮТЭРЫ

Яўген Мірановіч пісаў, што „Ніва" не будзе ўжо больш змяшчаць карэспандэнцый чытачоў на тэму няшчасных камп'ютэраў, што тэма вычарпалася, дзякуючы бескампраміснай паставе ўлад БГКТ. Я аднак хачу выйсці з пэўнай прапановай да Прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ, як чытач і член БГКТ, якому неабыякавая справа грамадскай уласнасці.

Пачнем з фактаў. Неаспрэчным з'яўляецца тое, што камп'ютэры становяць уласнасць БГКТ так, як фактам з'яўляецца і тое, што дзяржаўная датацыя была перададзена на рахунак БГКТ. Пэўна не было тады іншай магчымасці, але калі і была, дык гэта не віна Таварыства. Я ў пэўным моманце прапанаваў залажыць Беларускі фонд дзеля падтрымкі нашай культуры, але мая прапанова не папала на ўраджайны грунт гаспадарчай дзейнасці. Калі б Аляксандр Баршчэўскі быў тады (ці толькі?) зацікаўлены прапановай, калі б думаў па-гаспадарску, калі б разумеў абставіны, у якіх знайшлося Таварыства, дык сур'ёзна падышоў бы да маёй прапановы. Зараз няма сэнсу наракаць на лёс, тым болей, што тады як і цяпер, магу толькі **стараца** шукаць выйсця з трагічнай сітуацыі грамадска-палітычнага руху беларусаў у Польшчы.

Яшчэ і цяпер чуваць у нашым асяроддзі галасы, якія проста не вераць, што могуць нас выкінуць з задоўжаных памяшканняў, што дзяржава не будзе датаваць дзейнасці Таварыства. Людзі не ўсведамляюць сабе таго факту, што існаванне розных грамадскіх арганізацый, нягледзячы сабе і нацыянальных меншасцей, залежыць толькі ад членаў гэтай арганізацыі. Дзяржаўная палітыка зараз такая, што ёй як бы і залежыць на тым, каб Беларусь падтрымлівала палякаў у Беларусі і таму падтрымлівае беларусаў у Польшчы. Такая сёння рэчаіснасць і трэба з ёю змірыцца. І таму няма сэнсу плакаць, што ліквідуюцца клубы ў Варшаве, Гданьску, Беластоку, Бельску і іншых мясцовасцях. Няма чым плаціць арэнду — трэба ліквідаваць. Немцы не ліквідуюць, бо Германія, і нямецкае асяроддзе ў Польшчы багатыя. Праўда, беларускіх капіталістаў у Польшчы, думаю, таксама нямала і маглі б памагаць грамадскім арганізацыям. Усё ж пры помачы гэтых арганізацый увайшлі яны на беларускі рынак, дзякуючы іх кантактам. Але, з другога боку з гэтых грошай павінны арганізацыі разлічыцца публічна. Ніхто не дасць грошай, не ведаючы мэты іх прызначэння.

Але вернемся да камп'ютэраў. Стаць яны ў памяшканнях БГКТ і не даюць яны ніякага прыбытку ні БГКТ, ні „Ніве", нікому. Аб'яднанне ўкраінцаў таксама мае камп'ютэры і даход з іх працы дазваляе пакрыць частку арганізацыйных выдаткаў, нягледзячы сабе і ў 30%. Запатрабаванне на камп'ютэрныя паслугі, думаю, ёсць. Спецыялісты да абслугоўвання таксама. Прапаную, каб Прэзідыум Галоўнага праўлення БГКТ і Праграмная рада тыднёвіка „Ніва" селі за стол і дамовіліся наконт арэнды камп'ютэрнага абсталявання.

На арэндзе не толькі павінна залежыць ПРТ „Ніва", але і Таварыству, якое штомесяц атрымлівала б арэндную плату. „Ніва" таксама магла б зарабляць, прымаючы заказы на набор тэкстаў звонку.

Вядома, што камп'ютэры Таварыства — гэта грамадская ўласнасць, затым усе беларускія арганізацыі павінны мець льготы, калі б заказвалі набор, напрыклад, аплачвалі б толькі ўласныя кошты набору, без прыбытку. Напэўна, у цану паслугі набору ўваходзіла б амартызацыя і ўсе неабходныя кошты як плата спецыялісту, электраэнергія, і т.п. Трэба сесці за стол, як бізнесмены, якія наогул кіруюцца інтарэсам сваіх фірмаў. Скарыстае на гэтым цэлае беларускае асяроддзе. Можа тады, мы тут, у Гданьску, маглі б наладзіць выдаванне „Вестак з нашай „хаткі" — часопіса, аб якім я марыў ужо даўно, але найбольшыя грошы пры друку наогул ідуць на набор тэкстаў і з гэтай прычыны былі гэта толькі мары.

Рыхтуецца чарговы з'езд БГКТ. Калі не будзе адказу з боку БГКТ і ПРТ „Ніва" ў справе вырашэння гэтай праблемы, тады буду прапанаваць на З'ездзе прыцягнуць да адказнасці Прэзідыум Галоўнага праўлення БГКТ за марнатраўства грамадскага дабра, якое, замест служыць усім беларусам, марнуецца, так як шмат што змарнавалася з-за браку гаспадарскага падыходу да грамадскай маёмасці.

**МІХАСЬ КУПТЭЛЬ**




**ЧАСТКА XXXIX**

Досыць часта сярод размоўцаў, якія выказваюцца на тэму перамен у нашай краіне і ў Беларусі, паяўляецца матыў народнай згоды на той тып пераўтварэнняў, якія наступаюць у былым Савецкім Саюзе і якія наступілі ў Польшчы ў 1989 годзе. Саракапяцігадовы беларус, які займаецца сельскай гаспадаркай, выказвае наконт гэтага такія меркаванні:

„Я гаварыў і гавару, што так паступаць, як у нас паступілі, не можна. Калі пастанавілі ў нас памяняць панствову сыстэму, то трэбо было спытаць народу, чы ён гэтаго хочэ, чы ні хочэ. Чаму гэто не правялі рэфэрэндум або галасавання і не спыталі чы народ хочэ капіталізму, чы сацыялізму? От ніхай спыталі б. І калі б народ выказаў паддзержку для капіталізму, то тады гэты капіталізм уводзіць, а калі не, ну то не ўводзіць.

Ды ведаеце, я быў у польскім серадавіскаві каля Чорнае Беластоцкае. Два рокі таму назад туды выходзіла замуж мая сваячка, ну то я быў на вяселлі, а цяпер то ездзіў на хрысціны.

Вы знаеце што? Два рокі таму назад як я сказаў, што ўсе гэты абяцанкі-цацанкі „Салідарнасці" то ірунда, то думаў, што мяне стаўкут на кваснэ яблыко. Яны просто ўсе гарэлі, даказвалі, што крыху пабудзе кепско, а пасля будзе вельмі добрэ. А вы знаеце, што было на гэты раз? Самі мяне зачапілі і гаварылі: „Добры цловеку, мувілэсь зэ ніц з тэго не бэндзе. Нестэты, але політыка тых новых зондув то вельке гувно. Найлепей то было псы Герку, ропа таня, збозэ і свіне droге. Позылосе собе так, зэ юс так нігды не позыемы. Але мы се дамы, застосуемы таке блёкады, зэ задэн з месцухув не псэедзе од Бялэгостоку до Вроцлава".

І вы ведаеце, такія яны злосныя і мне здаецца гатовы на ўсё. Гаварылі аб страйках і аб галадоўках, і аб блакадах. То калі я ўсё гэто параўноўую тут з нашымі настроямі, то німа ніякіх параўнанняў. У нас то ніхто і ні думае аб якіхся там блакадах чы галадоўках. То я з гэтаго ўсяго, то раблю такія ўнёскі: беларусы ні верылі ў абецанкі „Салідарнасці" і ведалі, што ніякого раю ні будзе. Наадварот, усе ў нас гаварылі, што будзе бесправе, хаос і бяда і калі ўсё пачало пагоршвацца, то гэто не было для нас заскачэннем, наадварот, усё сталася так, як мы думалі. Хоць трэбо сказаць, што ніхто з нас ні знаў, што пачнут уводзіць адплату за навуку і адплату за лячэнне. Гэтого то ніхто не прадвідзеў. Ні прадвідзелі мы таксамо, што дойдзе да такого, як было рок таму назад, што мэтэр збожа каштаваў штэры раз больш, чым мэтэр патасовае солі. Ну, але так чы інакш мы знаді, што ўсе тые гаварэнні аб дабрабыце, то толькі пустая балбатня. Ну, а палякі верылі. І калі толькі аказалосё, што жывецца ўсё горш і горш, то палякі вельмі моцно зняверыліся і пачуліся ашуканымі. А самі знаеце, у палякаў кроў гарача і яны не будут сідзець і маўчаць так, як сідзіт і маўчыт нашэ вецечко. От яны і міністэрства і ўжэнды ваяводзкі акупуют, і дарогі блакуют, і яшчэ нівядомо, што там прыдумают. Ну, а што з гэтаго будзе? А чорт яго знае! Калісь жонды то баяліся народу. Нібося, калі пачынаўся страйк, то тыс з камітэтаў партыйных калачі ў ганавіцы. А сягодня, што гаворат прэм'еры і міністры? А кажут: ніхай собе страйкуют і галадают колькі хочут і так мы не ўступім. Ну, праўда, гурнікаў то спалохаліся. Ну, ведомо, зімою без вугля то гэто каюк для краю. От таму і далі гурнікам дадатковые грошы, а рэшце хвігу паказвают і ўсё. Ну але не знаю, як доўго так можно лекцэважыць такую біду пачці што ўсяго народу. Мне здаецца, што тут можэ штось пэнкнуць з вялікім трэском. Мы то тут ні хочам, каб пачалася якаясь бойня. Ні дай Бог! Бо трэбо сказаць, што хоць і сытуацыя моцно погоршылася, то пакуль што голад у вясковы хаты не заглядае. Але ўжэ мужык не можэ учыць сваго дзіцяці ў Варшаві, бо не хваціт грошай. А пару лет таму назад, пры дэмакратыі, то часто з аднае сям'і вучылася па двое, і па трое дзяцей. Гэто ўжэ канчаецца. Куды пойдзе ўсё гэто — не знаю. Ці зноў пачнут у вёсцы біцца і рэзацца за мяжу? Чорт яго знае. Вядомо, што ўсё гэто да дабра не давядзе."

## БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

**АЛЕСЬ БАРСКІ**



*Бусел, бусел — клекатун...* Фота Я. Целушэцкага

*МІКОЛА ІГНАЦЮК, Рыбалы*

### ВЯСНОЙ

Ездзілі мы ў сяло:
Як цяпер там весяло!
Салавей ў гаю пяе,
Зязюля ў ляску куе.

Па балоце буслы бродзяць,
А далей каровы ходзяць.
У полі груша зацвіла...
Там я з мамаю была.

Каб вы знаді, даражэнькі:
Бегаў зайчык там маленькі,
А злапаць я не магла,
Хаця й босая была!

Пад бярозаю з крыніцы
Напіліся мы вадзіцы.
Там і кладачка была,
Я сама па ёй ішла...

### ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

Доктар спытаў у Жэні:
- Што цябе турбуе?
Жэня ў адказ:
- Боцікі ціснуць.

* * *

У Каці пытаюцца:
- А дзе твая бабуля Наташа?
Малая адказвае:
- Сядзіць на пенсіі. Гэта хіба крэсла такое...

* * *

- Мама, пайшлі на вуліцу, я абяцала з табой пагуляць...

*Запісаў Янка Дарожны*

## НАДВОР'Е І НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

Пасля шэрага невыразнага вечара ўранку зарніца чырвоная - будзе днём дождж.

Дамашнія жывёлы мала п'юць вады, днём спяць - перад дажджом.

Салавей звонка, па-сапраўднаму заспяваў - вада з палеткаў пайшла на спад.

Зязюля рэгулярна кувае - замаразкі перапыняцца, надвор'е стане цёплае.

Гусі высока ляцяць - вады будзе шмат, нізка - мала.

Прыляцелі птушкі, але доўга не шчабечуць - яшчэ будзе холадна.

Майскія жукі (хрушчы) вечарам лятаюць і гудуць - назаўтра будзе гожы дзень.

На паверхні вадаёма з'явіліся шырокія лісты белага гарлачыка - замаразкаў болей не будзе.

## ВЕРАБЕЙКА

Толькі-толькі развіднела. Матуля-вераб'іха ўзнялася і паляцела шукаць спажывы для сваіх маленькіх дзетак. Неўзабаве яна вярнулася:

- Гэта табе! Гэта табе! Гэта табе!..

Раздала ўсё. А аднаму верабейку не хапіла. Вельмі пакрыўдзіўся ён.

- Сам палячу,- парашыў верабейка. - Не маленькі ўжо.

Паляцела маці зноў па спажыву, а верабейка высунуўся з гнязда, узмахнуў крыльцамі і... паляцеў уніз камнем. Аж дух заняло. Добра, што пад старым дрэвам расла траўка, як на пярыну ўпаў.

- Чык-чырык! Чык-чырык! Не баліць мне! Не баліць! - паскакаў верабейка па зямлі. Хацеў пагледзець, што робіцца вакол. Падняў галаву і - заплюшчыў вочы ад страху. Проста на яго ішла нейкая вялізная жывёліна. Яна страшэнна пыхкала - пых-пых! - і хапала траву.

"Прапаў я" - падумаў верабейка.

А гэта была карова Лысуха. Папыхкала, папыхкала каля верабейкі і адышла. Толькі расплюшчыў вочы верабейка, а дзесьці справа:

- Гаў! Гаў! Гаў!

Стуліўся ў траве верабейка. Колькі страхаў усюды!

Потым усё сціхла. Апамятаўся крыху верабейка, і зноў захацелася яму есці. Пакруціў галоўкай, паглядзеў: вакол траўка расце, а чарвякоў няма нідзе.

- Чык-чырык! Дзе мама бярэ чарвякі? Чык-чырык! Адкуль іх прыносіць?

Сонейка ўзнялося над садам. Дзесьці ў кустах маліналўка заспявала, ластаўка праляцела, успомніў верабейка сваю матулю, брацікаў, і сумна яму стала.

- Чык-чырык! Чык-чырык! Хачу дамоў!

Але дом быў высока-высока, нават не відаць за галінамі.

У гэты час у садзе гулялі брацік з сястрычкай.

- Глядзі, Ніна, верабейка! - паклікаў Мікітка.

- Які ён маленькі, шэранькі, - пагладзіла Ніна птушачку. - А крыльцы толькі пачалі расці. Дзе ж ён жыве?

Ніна і Мікітка паглядзелі ўгору. Высока на дрэве дупло. Дабрацца да яго нялёгка.

А верабейка:

- Чык-чырык! Чык-чырык! - і раскрыў свой роцік.

- Ён есці хоча, Мікітка. Возьмем яго, будзем гадаваць, - сказала дзяўчынка.

Ніна збегала дамоў, прынесла маленькі кошык. Паслала ў яго ваты, розных стужачак, казінага пуху. Сапраўднае гняздо! Добра ў ім верабейчыку: мякка і цёпла.

А Мікітка прынёс хлебных крошак. Толькі верабейка разявіць роцік - ёсць крошка! Смачна. Наеўся верабейка і заснуў. А дзеці прычапілі кошык-гняздо на цвік каля акна ў хаце.

Быццам у калысцы вісіць птушачка. Прачнецца і адразу ж:

- Чык-чырык! Дайце крошак! Чык-чырык! Дайце крошак!

Так і даглядалі верабейку Ніна і Мікітка. Неўзабаве ён і сам навучыўся дзяўбці. Накрышаць перад ім дзеці хлеба, верабейка - раз-раз - і наеўся. Палётае трошкі па хаце ды зноў у сваё гняздо.

Аднойчы пачуў ён праз адчыненае акно знаёмае:

- Чык-чырык! Чык-чырык!

Страпянуўся верабейка, падняўся, узмахнуў крыльцамі і ў акно - пырх, ды на галінку.

- Мікітка, Мікітка! Наш верабейка паляцеў, - закрычала Ніна.

- Чык-чырык! Дзякуй вам! Чык-чырык! Дзякуй вам!

Памахаў верабейка крыльцамі і паляцеў са сваімі шэрымі сябрамі.

П. ТКАЧОЎ

## *Вершы Віктара Шведа*

### НЕ ЎСЁ ЗОЛАТА, ШТО СВЕЦІЦЬ

- Ведайце заўсёды, дзеці:
Не ўсё золата, што свеціць.
Гэта прымаўка ў народзе
Прыклады дае нам штодзень.
Хто, - настаўніца спытала, -
Дасць нам прыклад дасканалы?
Адазвалася Ганулня:
- Лысіна майго дзядулі!

### ТАТА ВІНАВАТЫ

- Чаму ты, Міхась, упарта
Увесь час стаіш ля парты?
Калі пастаіш замнога,
Забаляць страшэнна ногі.
- Сядзь нарэшце, не дурыся,-
Штурхнула яго Марыся.
Міхась буркнуў вінавата:
- Дзённік мой... падпісваў... тата...

### ХТО МАЕ ЗВЯРОЧКА?

Біёлаг пытае:
- Хто зврочкаў мае?
- Я маю сабаку, -
Адазваўся Якаў.
- Акварыум маю, -
Даказала Рая.
- У лядоўніку курку
Я маю, - кажа Юрка.

### ШТО ЁСЦЬ У ДЗІЦЯТКА?

- Слаўнае дзіцятка:
Мае носік маткі,
Ну а вачаняты -
Хіба свайго таты?
- Маю нагавіцы
Свайго брата Віці,
Світэр сястры Наткі, -
Дадало дзіцятка.

### ХТО ПАЧАЎ?

Тата сынка адлупцаваў.
Паплакаўшы, сынок спытаў:
- Цябе бацькі таксама білі?
- Вядома, калацілі.
- А дзедку нашага сівога?
- Білі многа.
- І білі прадзеда таксама?
- Напераменку: тата - мама...
Чаму пытаеш, Яраслаў?
- Раблю я дослед: хто пачаў?

### ХОЧАШ ДАВЕДАЦЦА - ПЫТАЙ!

Татульку запытаў сынок:
- Колькі жыхароў мае Беласток?
- Не ведаю, - азваўся тата.
- А дзе, скажы, ляжаць Карпаты?
- Не ведаю, сынок, таксама.
- Не муч ты бацьку, - просіць мама.
Бацька на гэта: - Мікалай,
Хочаш даведацца - пытай!

### СЫНОК УЖО ХОДЗІЦЬ

- Шчаслівейшы ў нас дзянёк,
Наш Валодзя,
Даражэнькі наш сынок
Ужо ходзіць!
- Пасылаюць лепшы лёс
Нам нябёсы.
Вышлі ты яго ў кіёск
Па... папяросы.

### ГЛОБУС

- Табе, унучка, да вучобы
Я прынясла прыгожы глобус.
Калі была я вучаніцай,
З яго змагла шмат навучыцца.
Шануй парадак свой, вядома,
Не пазычай яго нікому...
- А ці Амерыка, бабуля,
Ужо ёсць на ім? - спытала Уля.

### ДАЎЖЭЙШЫ БУГ, ЦІ МІСІСІПІ?

Настаўнік запытаў Піліпа:
- Даўжэйшы Буг, ці Місісіпі?
- Дык Місісіпі, зразумела, -
Адказвае Піліпка смела.
- Даўжэйшая на колькі, сынку?
Піліп падумаўшы хвілінку:
- А Місісіпі, меанвіта...
Даўжэйшая... аж на пяць літар.

## НА ПАРОЗЕ САМАСТОЙНАГА ЖЫЦЦЯ (7)

Для цябе адкрываюцца вялікія магчымасці - авалодваць усебаковымі ведамі аб свеце, аб грамадстве, аб культуры, навуцы, мастацтве. Нельга ж сур'ёзна абмяжоўваць круг сваіх інтарэсаў толькі моднымі фірмамі і музычнымі ансамблямі. Гэтага вельмі мала, каб разабрацца ў сур'ёзных жыццёвых праблемах. Сучасны чалавек павінен быць шырока эрудзіраваны і не звужаць кола свіх інтарэсаў да прымітыўных форм. Бацькі, напрыклад, могуць стаць багатымі крыніцамі інфармацыі. Для гэтага прыглядзься да іх, пастарайся стаць ім бліжэй.

Ты можаш запярэчыць: ну, аб чым мне з імі гаварыць, я ж ведаю больш за іх - больш чытаў, больш глядзеў кінафільмаў, спектакляў. Можа гэта і так... Але паспрабуй расказаць аб убачаным маці, бацьку - ты абавязкова знойдзеш водгук у іх душы. А хіба табе не хацелася б бачыць у бацьках старэйшых таварышаў, з якімі можна пагаварыць аб розных праблемах, абмеркаваць пытанні, якія цябе хвалююць, не баючыся, што цябе не так зразумеюць? Дык вось, большую частку гэтага шляху да збліжэння павінен прайсці ты. Тваё спробы не застануцца незаўважанымі бацькамі: яны абавязкова адзначаць, што чалавек стаў больш сур'ёзным, разважае па-даросламу, заняты сапраўднай справай, адказна да яе адносіцца.

Напэўна, дарослаць твая праявіцца і тады, калі ты навучышся сувымяраць свае патрэбы з магчымасцямі тваіх бацькоў і не патрабаваць таго, чаго яны табе даць не могуць. Бацькі часцей забараняюць там, дзе не ўпэўнены, што ты ўмееш разважліва ацаніць свае і чужыя ўчынкі, разабрацца ў людзях, трымаць сваё слова, правільна паводзіць сябе ў розных жыццёвых абставінах. Ці часта, напрыклад, ты абмяркоўваеш з бацькамі якія-небудзь праблемы? Паспрабуй сам папрасіць бацькоў абсудзіць з табой набалеўшыя пытанні, папрасіць парады.

Няблага было б зірнуць на прывычны ўклад з нейкіх іншых пазіцый. Тваёй маме хочацца і кнігу пачытаць, і ў цырульню збегаць, і ў тэатр схадзіць. А ці падумаў ты, што яе вольны час таксама залежыць і ад цябе? Ці дапамагаеш ты ёй у дастатковай меры па хатняй гаспадарцы (купляць прадукты, прыбіраць кватэру, гатаваць страву, мыць і прасаваць бялізну, хадзіць у майстэрню, хімчыстку, удзельнічаць у бягучым рамонце кватэры)?

У будучым цябе чакаюць новыя сацыяльныя ролі: мужа і бацькі, жонкі і маці. Ці гатоў ты да іх? Ці не будзе, напрыклад, непрыстасаванасць цяперашняй дзяўчыны-падлетка прычынай пастаяннага напружання, пакут будучай жонкі з-за таго, што патрэбна займацца ўборкай, кухняй, а яна гэтага вельмі не любіць, бо не прывыкла гэта рабіць. Але ж дзе б ты ні працаваў і як бы ні быў захоплены грамадскай дзейнасцю, груз сямейных абавязкаў з цябе ніхто і ніколі не здыме.

Хатнія справы звычайна лічацца няўдзячнымі, мала прыемнымі. Але ўсё залежыць ад таго, як на іх паглядзець. Без трывала засвоеных і тысячу разоў замацаваных на практыцы працоўных і маральных урокаў з чалавека наўрад ці атрымаецца добры сем'янін.

Ці зможаш ты быць апорай сваёй сям'і, калі ўжо зараз стараешся ўхіліцца ад цяжкасцей? Ты павінен заўсёды памятаць аб тым, што прыйдзеш у сваю ўласную сям'ю з тымі навыкамі, якія выпрацаваліся ў цябе ў бацькоўскай сям'і.

Калі ты хочаш, каб бацькі былі тваімі сябрамі, падыходзь да гэтай дружбы з тымі ж меркамі, як і да дружбы з аднагодкамі: ты ж адносішся да іх з павагай, гатоў дапамагаць ім ва ўсім, стараешся іх зразумець і пераняць у іх усё самае лепшае. Таму дабіцца, каб бацькі лічылі цябе не толькі сваім сынам ці дачкой, але і сваім сябрам, не проста.

Безумоўна, цябе, тваіх аднагодкаў можна зразумець. Вам хочацца пазбавіцца ад дробязнай апекі, даказаць сваё права на самастойнасць, на дарослаць. Але не трэба пры гэтым забываць і аб душэўным стане бацькоў. Вы вельмі многае можаце зрабіць для таго, каб наладзіць і замацаваць духоўную сувязь з імі. У далейшым, калі вы будзеце зусім дарослымі, самастойнымі людзьмі, гэта дапаможа захаваць да іх самыя цёплыя пачуцці. І тады ваша сувязь з бацькоўскай сям'ёй ніколі не абарвецца.

*(Працяг у наступным нумары)*

**В.БАЛЦЭВІЧ, Л.ГАРБАЦЕНКАВА**

З вучнёўскай творчасці

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Беларуская мова,
Ты як плачучая ўдава,
Маці, якой на вайне забілі сына,
Што бараніў яе і нашу мову,
Праліў сваю кроў на чужую зямлю...
"Не плач, родна маці,
Што пайшоў я ў зямлю спаці.
Мяне родная мова вясёлкай убрала,
Вясною жаўруковай песняй калыхала,
Вяночак з ружаў мне спляла
І зямельцы роднай аддала".

**ЮРКА БУЙНЮК, Малінніkі**

## МАЙ

Невычэрпная маляўнічая палітра мая. Як загадкавы чараўнік, раздае ён рэзкія, свежыя колеры. Зялёны і блакітны, жоўты і аранжавы, сіні і пунсовы - усе колеры ўвабраў у сябе гэты паэтычны месяц, пара абнаўлення. Яшчэ нядаўна дрэвы і кусты стаялі агаленыя, а вось ужо і далікатныя зялёныя лісточкі радасна шапацяць. Пасля кароткага цёплага дажджу з першай навальніцай і громам зазелянелі бярозкі.

Усім дрэвам май падараваў квяцісты ўбор. Каму - яркі, каму - сціплы.

Пакрываецца белымі пахучымі кветкамі чаромха. Зацвітаюць у лесе ландышы. Раскрываюцца іх снежна-белыя з непаўторным водарам званочкі. Калі адцвітае чаромха, надыходзіць пара ўбірацца ў лісце і дубу. "Дуб апранаецца - жывёла наядаецца", - кажуць у народзе.

Як толькі дрэвы апрануць зялёны ўбор, вечарамі ў паветры з'яўляюцца матылькі і майскія хрушчы. Услед за імі - ластаўкі. Разам з ластаўкамі носяцца стрыжы. Яны за дзень пралятаюць да 1000 кіламетраў. У вячэрнім змроку сярод стрыжоў і ластавак трапляюцца і кажаны. Незвычайны знешні выгляд кажаноў, перапончатыя крылы, бясшумны імклівы палёт, начны спосаб жыцця - усё гэта з даўніх часоў выклікала самыя розныя выдумкі пра гэтых звяркоў, безабаронных і вельмі цікавых жывёл часта знішчалі. Калі іх бачыш у палёце, на першы погляд здаецца, што яны ўсе аднолькавыя. Аднак гэта не так. Кажаны адрозніваюцца адзін ад аднаго велічынёй, афарбоўкай футра, формай і даўжынёй вушэй і г.д. Яны не ладзяць сабе гнёздаў, а займаюць самыя розныя сховішчы: пячоры, штольні, скляпы, гарышчы, дуплы дрэў. Вучоныя ўстанавілі, што кажаны прыносяць чалавеку вялікую карысць.

У густых кустах на вышыні не больш 1,5 метра ад зямлі зроблена шарападобнае гняздзечка. Нечакана з яго выскокваe маленькі хвастаты звярок жоўта-вохрыстага колеру з белым брушкам. Гэта мыш-малютка. Мыш імгненна апынулася на зямлі і знікла. Пабегла па корм. Ва ўтульным гняздзечку засталося восем маленькіх мышанят.

У лесе пануе цішыня. Здаецца, што ўсё навокал замерла. Але лясная цішыня падманлівая. Лес і яго жыхары жывуць сваім асаблівым жыццём.

**А. КУРСКОЎ**



*ЗЁЛКІ-ЛЕКІ*

## САСНА — ЛЯКАРСТВА УНІВЕРСАЛЬНАЕ

Сасна звычайная (*Pinus silvestris* L.) гэта вялікае хвойнае дрэва, якое выступае ў зоне ўмеркаванага клімату паўночнага паўшар'я. У Польшчы гэта распаўсюджаная расліна дасягае 40 метраў вышыні. Сасновых лясоў у нас шмат.

Кара сасны на старэйшых галінах і ў верхняй частцы ствала — чырвонажоўтая, яна лушчыцца, як папера, тоненькімі пластамі. У ніжняй частцы ствала кара тоўстая, палопаная, у сярэдзіне — карычнева-чырвоная. Іголкі сасны цвёрдыя, даўжыня іх 4-5 см, радзей сустракаюцца іголкі даўжынёю 7 см, колер іх — сіне-зялёны. Шышкі адзінарныя, часамі растуць па 2-3, стаячыя, конусападобныя, даўжынёю — да 7 см, а шырынёю — да 3,5 см.

З сасны звычайнай атрымліваюць шмат лячэбнай сыравіны. Пад канец зімы і ранняй вясной збіраюць пупышкі, пакуль яны не пачнуць лопацца, і сушаць у сушарнях, у тэмпературы да 35° С. Сыравінай з'яўляюцца пупышкі сасны — *Gemmae Pini*.

Часамі збіраюць маладыя парасткі, што выбіваюцца з пупышак, якія не могуць быць даўжэйшыя 5 см. Сушаць іх, як і пупышкі. Атрымліваюць такім чынам маладыя парасткі сасны — *Turiones Pini*.

Дзякуючы адпаведным разрэзам на ствале сасны атрымліваюць з ранаў дрэва сасновы бальзам — *Balsamum Pini silvestris (Terebinthina communis)*, які часта няправільна называюць сасновай жывіцай, з якой дзякуючы дыстыляцыі і рэктыфікацыі атрымліваюць тэрпенцін (шкіпінар) — *Oleum Terebinthinae*. Тое, што застаецца ў катле — гэта каніфоль — *Colophonium*.

З малодшых галінак сасны, пры высечцы лесу здымаюць кару і сушаць яе ў натуральных умовах. Атрымліваюць такім чынам сыравіну *Cortex Pini silvestris*.

Дзякуючы дыстыляцыі з воднай парай маладых вярхушак і свежых сасновых іголак атрымліваюць эфірнае сасновае масла — *Oleum Pini silvestris*.

Пры дапамозе сухой дыстыляцыі сасновай драўніны атрымліваюць сасновы дзёгаць — *Pix liquida Pini*. Пупышкі і маладыя парасткі сасны можна збіраць толькі па дазволу леснікоў, а кару і сасновы бальзам — выключна з дрэў, прызначаных для вырубкі. Сасновая драўніна з'яўляецца вельмі каштоўным будаўнічым матэрыялам і матэрыялам для вырабу мэблі.

Бурштын ці янтар — *Succinum* — гэта ацвярдзеўшая жывіца з дрэў, якія раслі каля 30 мільёнаў гадоў таму назад. Адзін з відаў сасны называюць нават бурштыновай сасной — *Pinus succinifera* Con. Унутраныя прэпараты з пупышак і маладых парасткаў сасны прымяняюцца пры катаральных станах верхніх дыхальных шляхоў, якім спадарожнічае хрыпата, кашаль і боль горла галоўным чынам у дзяцей, моладзі і пажылых людзей. Часамі падаюць гэтыя сродкі ў якасці лагодна мачагоннага і напотнага сродка, а нават і вітамінізуючага (віт. С). Вадкі экстракт з пупышак сасны ўваходзіць у склад сасновага сіропу — *Sirupus Pini compositus*, які прадукуе „Herbapol".

Знешне адвары з пупышак і маладых парасткаў сасны выкарыстоўваюць для агульнаўзмаўцняючых ваннаў і пры некаторых скурных хваробах. У гандлі ёсць гатовыя прэпараты, як хоць бы шышкі для купання, у склад якіх уваходзіць экстракт і сасновае масла з пупышак сасны. Сасновае масла прымяняецца для інгаляцыі пры захворваннях дыхальных шляхоў (асабліва горла), пры астме і кашлі. Добрае яно і для дэзінфекуючых ды супакойваючых ваннаў пры нервовым узбуджэнні, а таксама пры некаторых скурных хваробах, адмаражэннях, сініцы лытак і рук, а таксама пры жыляках. Уціраюць яго ў скуру пры рэўматычных болях і нерваболях. Сасновае масла ўваходзіць у склад мазяў „*Capsiplex*" і „*Linimentum Capsici compositum*", якія выпускае польская фірма „Herbapol". Гэтыя мазі рэкамендуюцца пры запальных станах, рэўматычных болях і нерваболях.

Як унутраны лек сасновае масла выкарыстоўваецца ў невялікіх дозах як мачагонны сродак (у мяшанцы з іншымі сродкамі, якія дзейнічаюць падобна). Масла гэтае ўваходзіць у склад пасты „*Fitolizyna*" („Herbapol"), якія рэкамендуецца пры мачавых камянях.

Шкіпінар прымяняецца знешне як абязбольваючы сродак пры рэўматычных болях і нерваболях. Ён уваходзіць у склад мазі „*Capsiderm*" і эмульсіі „*Capsigel*", якія прадукуе „Herbapol". Ізаліраваная з шкіпінару мяшанка піненаў, якія могуць прымацца ўнутрана, паколькі не падражняюць слізістай абалонкі страўнікавага тракта, уваходзіла ў склад кропляў „*Terpinex*" (мачагонных і супрацьбактэрыйных) і кропляў „*Terpichol*", якія ўплываюць на арганізм жоўцегонна.

Сасновы дзёгаць выкарыстоўваецца пры розных хваробах скуры. Спіртны яго раствор прымяняецца ў вадкасці, якая прадухіляе выпаданне валасоў.

З бурштыну ці янтару робяць янтарны спірт, які ўціраюць пры рэўматычных болях, але выкарыстоўваецца таксама ў якасці супакойваючага сродка.

### АДВАР З САСНОВЫХ ПУПЫШАК

Паўлыжкі пупышак заліць 1 шклянкай гарачай вады і варыць на невялікім агні 3-5 мінут. Зняць з агню, даць настаяцца на працягу 15 мінут, а тады працадзіць. Піць 1-3 лыжкі 2-4 разы ў дзень пасля яды ў якасці сродка ад кашлю.

Адвар з паўлыжкі сасновых пупышак, узятых на 2 шклянкі вады і падрыхтаваны як вышэй, піць тры разы ў дзень паміж ядой па 1/2-2/3 шклянкі як сродак нязначна мачагонны.

### СІРОП З САСНОВЫХ ПУПЫШАК

Свежыя сасновыя пупышкі, сабраныя позняй восенню ці ранняй вясной, перарэзаць напалавіну і злажыць пластамі ў слоіку, перасыпаючы іх цукрам. Паставіць на 2-3 тыдні ў хатняй тэмпературы, пакуль яны не пусцяць сок. Тады перамяшаць і паставіць ізноў на 1-2 тыдні. Прымаць па 1 чайнай лыжачцы некалькі разоў у дзень пасля яды пры хваробах рота, горла, пры кашлі і цяжкім адкашліванні. Добра ўплывае гэты сіроп як на арганізм дзяцей, так і дарослых.

Пупышкі, якія застануцца ў слоіку, заліць 3-4 шклянкамі кіпячонай, астуджанай вады, павінна гэта пастаяць 1-2 гадзіны. Атрымаецца смачны, араматны напітак.

**Сасновы сіроп складаны** — „*Sirupus Pini compositus*", які прадукуе „Herbapol", падаюць наступным чынам: дарослым — 3-4 разы ў дзень па 1 лыжцы пасля яды пры запаленні верхніх дыхальных шляхоў, дзецям — 3 разы ў дзень па 1 чайнай лыжачцы пасля яды.

### САСНОВЫЯ ВАННЫ

15-20 маладых парасткаў сасны або 2-3 жмені іголак заліць у каструлі 2-3 літрамі вады, накрыць і варыць на малым агні 10 мінут. Адвар павінен настаяцца яшчэ мінут 15. Пасля працадзіць яго ў ванну, напоўненую да 1/3 вадою тэмпературай 37 С. Час прымання ванны — 10-20 мінут. Такія ванны паляпшаюць кровазварот, крыху мачагонныя, супакойваючы. Змяншаюцца таксама рэўматычныя болі і нерваболі.

Падобную ванну можна падрыхтаваць пры дапамозе 1-2 лыжак сасновага масла, змешанага з 3-4 лыжкамі шампуні на 1/3 ванны вады.

### БУРШТЫНАВЫ СПІРТ

1 лыжку дробных кавалачкаў натуральнага бурштыну памыць у вадзе, палажыць у малы слоік і заліць палавінай шклянкі спірту. Зачыніць і паставіць у хатняй тэмпературы на 10 дзён, часта патрэсваючы. Атрымаецца светласаламяны экстракт, які выкарыстоўваюць у якасці націрання. Бурштын, які застаецца ў слоіку, можна некалькі разоў залідаць новымі порцыямі спірту. Такое націранне ўтольвае рэўматычныя болі, нерваболі, болі мышцаў. Калі націраць ім скроні, супакойваецца галаўны боль.

У аптэках ёсць таксама сродак „*Pinalbina*" („Herbapol"), у саставу якога ўваходзіць сасновая кара. Дарослыя прымаюць па 1-2 таблеткі нават і 4 разы ў дзень, дзеці — менш. Сродак супрацькрываецёчны і супрацьбактэрыйны пры паносах у дарослых і дзяцей.

**ЭСКУЛАП**




Даражэнькі Астронку! Ізноў мне прысніўся кепскі сон пра маю дачку. Я нядаўна табе пісала, а ты адказаў мне, што маю дачку падсцерагае нейкая небяспека, што хутчэй за ўсё будзе гэта нейкая хвароба.

І цяпер мне прыснілася, як і тады, што мы недзе за граніцай, здаецца, у Венгрыі. Не ведаю, у якой мы знаходзімся мясцовасці, але ведаю, што тут ёсць азёры. Нейкая я ўвесь час неспакойная, баюся чамусьці, каб нас не абакралі. Раптам бачу, што мая дачка ідзе проста ў балота. Усе сядзяць быццам у пакоі, а яна паволі пайшла і знікла. Я толькі бачыла, як яна шлэпала па мокрадзі, а цяпер яе няма. Мне моташна, але ж зараз і дачка ў гэтым пакоі паяўляецца. Дачка мая дарослая, а прывяла яе дзяўчынка гадоў дзесяці. Абедзве яны мокрыя. Быццам бы мая дачка тапілася, а тая малая выратавала яе. Стаяць яны, вада цячэ з іх.

Астроне! Мне страшна.

**Леакадыя**

Леакадыя! Я параўнаў твой сон з папярэднім: там ты была таксама за граніцай з дачкой, там таксама вузкія, стромкія сходы прадвяшчалі цяжкасці. Цяпер жа гэта балота, у якое ўвайшла твая дачка... Будуць нейкія бруды вакол яе, а можа гэты сон пацвярджае той першы (хвароба). Паколькі дзяўчынка выратавала яе, павінна ўсё скончыцца добра.

**АСТРОН**

## ВІРАВАНКА З „В"




1/ сукупнасць слоў, 2/ асабняк з садам, 3/ сялянская лава, 4/ рыбалоўная снасць, 5/ газета, як поле, 6/ нядобры ўчынак, 7/ чорны напітак, 8/ орган зроку, 9/ слабаалкагольны напітак, 10/ пранізлівы крык, 11/ ноччу не спіць, 12/ у лес яго цягне, 13/ пушыстая і белая, 14/ важная паперка, 15/ кіславаты напітак, 16/ матэрыял на соты.

**ядань**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 11 нумара:** абед, елка, кола, лета, плод, капа, рука, гора, Ялта, Танк, нуда, доля, „Ніва", банк, неба, нюня.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: **Мікалай Красоўскі** з Бельска-Падляшскага і **Лукаш Пацэвіч** з Беластока.


**Ніва**

**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Міранович (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка "Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1993 r. upływa 20 maja 1993 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 39 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## МА КАТ РАЗМЫ

*Вятры „белавежскія”*

**ПРЫСВЯЧЭННЕ**

Мае песні — білет да нікога,
Тваe песні — унікуды дарога,
Нашы песні — то ўніз, то ўгару...
Таму свету я іх падару.

**ЛІТГІЛЬДЗЕЕЦ**

Пасівеў лысун ад барады,
А ўсё ходзіць у маладых.

**СІДАР МАКАЦЁР**

*НА ХВАЛЯХ ЭФІРУ*

**СУБТЫЛЬНАЯ РОЗНІЦА**

— Чым адрозніваецца журналіст ад журналіста беластоцкага радыё?

— Першы можа думаць як задаволіць чытача, другі мусіць думаць як задаволіць начальніка.

**ПРЫВІТАННЕ**

Dzień dobry. Wita Państwa Polskie Radio Białystok. Dzisiaj imieniny Palanta, Palancjusza, Palantyny, Fajfa, Fajfusa i Fajfuryny. Solenizantom składamy nasze najlepsze życzenia.

**КВІНТЭСЕНЦЫЙ**

**ЦІ ТЫМ ДУМАЛА?**

*(З народнага)*

Эх, думала, думала —
усё перадумала.
Думала, думала,
думала я.
А як падумала:
„Чым жа я думала?”
„Лепш бы не думала”, —
думала я.

**УЛАДЗІМІР ЕРМАЛАЕЎ**

## ДУМКІ ЎСЛЫХ

Самым дабром вымашчана атэіста дарога
Таксама вядзе да Бога.

* * *

Дурнота пры мудрасці спагаду мае,
Мудрасць пры дурноце прападае.

* * *

Вера ў Бога кволай бывае,
Калі яе культура не падпірае.

* * *

Душу можна маннай нябеснай карміць,
Але ніколі ёй цялеснай стравай быць.

**ЯЗЭП КАРПЮК**

## НІЎКА

A W OPOLU PROPONUJE ALLIANCE INTERNATIONAL „НЕЈМАТ”

Alliance INTERNATIONAL KRESOWE 20 PAPIEROSÓW Z FILTREM

*АМБРОЗ БІРС*

## БАЙКІ

**ВЫРАТАВАЛЬНІК**

Да Прэзідэнта Таварыства Гуманнасці прыйшлі семдзесят пяць мужчын і запатрабавалі для сябе залаты медаль за ратаванне жыцця.

— Так, так, — сказаў Прэзідэнт. — Столькі людзей сваімі намаганнямі напэўна выратавалі шмат жыццяў. А колькі дакладна?

— Семдзесят пяць, — адказаў іх Прадстаўнік.

— Так, так, па адным на кожнага. Добрая праца, вельмі добрая. Вы не толькі атрымаеце залаты медаль Таварыства, але і нашыя рэкамендацыі для працаўладкавання на выратавальных лодачных станцыях. Але якім чынам вы выратавалі столькі жыццяў?

Прадстаўнік сямідзесяці пяці мужчын сціпла адказаў:

— Мы — паліцэйскія і толькі што спынілі праследаванне двух вельмі небяспечных злачынцаў.

**ЗАГАННАЕ ВЫКАНАННЕ**

Апосум, што належаў Вялікаму Крытыку, скраў яго любімае кацяня і ўжо збіраўся забіць і з’есці яго, як убачыў Крытыка. Баючыся пакарання Апосум схаваў здабычу ў сваёй торбе.

— Ну, мой прыгожы, — сказаў Вялікі Крытык, — што цікавага ты падрыхтаваў для мяне?

У гэты момант кацянё пачало жаласна мяўкаць. Калі мяўканне нарэшце сціхла, Апосум сказаў:

— Я тут трохі займаўся чэрававяшчаннем, думаючы, што гэта пазабавіць майго пана.

— Жаданне пазабавіць свайго пана заўсёды пахвальна, — паблажліва сказаў Вялікі Крытык і дадаў, як прафесіянал: — Але табе яшчэ трэба шмат вучыцца сапраўднаму мяўканню.

*З англійскай пераклаў*
*АЛЕСЬ КУДРАЎЦАЎ*

## АНЕКДОТЫ

Лекар пытаецца ў пацыента:

— Як вам памагло лякарства, якое я вам прыпісаў папярэднім разам?

— Цудоўна. У сына прайшоў кашаль. Зніклі ў мяне болі ў крыжы. Рэшткі таго лякарства мая жонка выкарыстала для мыцця вокан.

* * *

У адным шатландскім горадзе на дзвярах лекарскага кабінета вісіць аб’ява: „Першы візіт — 20 фунтаў, другі візіт — 10 фунтаў”. Шатландзец адкрывае дзверы кабінета і гаворыць:

— Сардэчна вітаю шаноўнага доктара, гэта зноў я.

* * *

— Доктар, — гаворыць па тэлефоне шатландзец, — здарылася няшчасце! Мая дачка праглынула каштоўную манету.

— Зараз буду ў вас! Скажыце толькі, колькі ёй гадоў.

— Дакладна не ведаю, але напэўна яна з мінулага стагоддзя.

* * *

— Уяві сабе: лекар-псіхіятр адным махам вырашыў усе мае сямейныя клопаты.

— Як жа гэта яму ўдалося?

— Уцёк з маёй жонкай.

* * *

Маня пытае мужа:

— Навошта ты ў ром даліваеш спірт?

— Доктар забараніў мне піць ром неразбаўлены.

* * *

— Бачу, што вы не можаце вырашыць, што б вы хацелі купіць, — звяртаецца прадаўшчыца да жанчыны.

— Гэта праўда. Дапамажыце купіць мне падарунак для мужа, але такі, каб і я магла часам яго надзець.

* * *

— Навошта купляеш жонцы новую сукенку, калі сабраўся з ёю развесціся?

— Баюся, што ў старой яна не захоча пайсці ў суд.

* * *

— Мой муж пасля вяселля заявіў: „Я маю пазашлюбнае дзіця”.

— І што ж ты яму сказала на гэта?

— Што я маю двое!

**Падборку зрабіў**
**ЯНКА ДАРОЖНЫ**



## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Даражэнькае Сэрцайка! Мая справа нетыповая. З мужам мы пражылі ўжо пяць гадоў. Ёсць праміль сынок. Ï пажаніліся мы з страшэннага кахання. Я за ім проста млела, ён адкрыў мне вочы на пачуцці між мужчынам і жанчынай. Прынамсі дагэтуль я не ведала, што каханне можа быць такое прыгожае. Думаю, што я не памылюся, калі скажу, што і ён за мной шалеў.

Мушу табе па шчырасці сказаць, Сэрцайка, што даволі прыстойная з нас пара была. Сяброўкі, запрошаныя на наш шлюб, з зайздрасцю спаглядалі на нас.

Поўня майго шчасця трывала надта надоўга. Першыя сімптомы таго, што мой муж лётае „на бакі”, я заўважыла ўжо на другі год нашага супольнага жыцця, калі я хадзіла цяжарная. Мой муж пачаў надоўга затрымлівацца пасля працы, не ішоў адразу дахаты, хаця ведаў жа, што я там сяджу адна і чакаю яго, як збавення. Тым больш, што лекары не прадказвалі мне лёгкіх родаў.

Пасля было малое дзіця, новыя клопаты, ды і не заўсёды мела я сілы, каб доўга і шалёна кахацца з мужам. Сынок кепска спаў, плакаў па начах, я насіла яго на руках, была зусім без сіл. Як толькі прытыкалася галавой да падушкі, дык і спала. Куды мне там было да шалёнага кахання!

Відаць, майму мужу такая сітуацыя не адпавядала (маю на думцы нашы палавыя зносіны), бо хаця быў вельмі чуллівы ў адносінах да мяне, то ўсё роўна шукаў нейкай кампенсацыі ў сексуальных справах „на баку”. Пару разоў мне нават гаварылі знаёмыя, што бачылі яго з той ці іншай дзяўчынай, але я ўсё роўна не магла сабе ўявіць майго мужа ў пасцелі з іншай.

Калі дзіцяці было два гады, я ўжо была ўпэўненая, што мой муж, такі прыгожы, такі каханы, здраджвае мне. Як пачаў гуляць на другі год пасля нашага шлюбу, дык цяпер ужо настолькі „раскруціў” гэту дзейнасць, што нават не саромеўся мяне. Расказваў пры людзях нейкія небыліцы (я ведала, што гэта была праўда) пра свае сексуальныя пахаджэнні, у кампаніі садзіў сабе дзяўчат „на калені”, хаця ведаў, што я спаглядала на гэта неахвотна.

Ну, і ўяві сабе, Сэрцайка, што ён за чалавек! Пры ўсім гэтым зрабіўся такі зайздросны ў адносінах да мяне, што проста жыць не дае. Я, вядома, калі скончыўся мацярынскі водпуск, вярнулася на работу. Праца ў мяне вельмі цікавая. Навокал шмат людзей, а найбольш мужчын. Несумненна, што некаторыя спаглядаюць на мяне ласым вокам. Але як жа я магла б пайсці з іншым, калі я надалей кахаю без памяці майго мужа... Быў ён маім першым мужчынам і будзе, бадай, апошнім.

Але ён шалее. Пачаў выпытваць у маіх сябровак, хто мне сімпатызуе, часамі нават, заўважыла я, сочыць за мною. Мне смешна гэта, але нават крыху і падабаецца. Няхай памучыцца крыху і ён, думаю я. Але ж ад сваіх прызвычаенняў у адносінах да іншых дзяўчат не адмаўляецца. Як гэта магчыма?

**Данка**

Данка! Твой муж мае цябе за жонку — першую, найважнейшую, але якая з хаты не ўцячэ. Паколькі палюбіў гэты „спорт”, дык не ўяўляе сабе, што і ты не займаешся ім, тым больш, што ведае аб тваёй прыгажосці і поспеху, якім карыстаешся ты сярод мужчын.

Доўга, аднак, так цягнуцца не можа. Калі толькі скусішся і ты на нейкую здраду, зразумееш, што была дурная, бо даравала мужу і не рабіла гэтага раней. А што будзе пасля — ці разам, для дзіцяці, ці асобна — час пакажа. Думаю, трывалай сям’і тут ужо не будзе. У ніякім выпадку.

**СЭРЦАЙКА**